*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 24 (1279) 15 ЧЭРВЕНЯ 2016 г.

## У Парэччы ўшанавалі Міхала Валовіча



У суботу, 11 чэрвеня, у вёсцы Парэчча Слонімскага раёна адбылося мерапрыемства па ўшанаванні аднаго з кіраўнікоў паўстання 1830-1833 гадоў супраць Расейскай імперыі Міхала Валовіча і яго 12 паплечнікаў. Да памятнага крыжа ў гонар паўстанцаў, які знаходзіцца на могілках вёскі Парэчча, прыехалі грамадскія актывісты, літаратары, журналісты і проста людзі са Слоніма, Дзятлава, Менска.

Мерапрыемства, якое праходзіла за тыдзень да 210-х угодкаў з дня нараджэння Міхала Валовіча, адкрыў слонімскі гісторык і літаратар Сяргей Чыгрын, які распавёў пра змагарны шлях Міхала Валовіча і яго паплечнікаў, пра лёс памятнага крыжа, устаноўленага на радзіме змагара. Літаратар і журналіст з Менска Міхась Скобла дапоўніў Сяргея Чыгрына і выказаў думку, што Міхал Валовіч у свой час быў вялікім рамантыкам, адважным ліцвінам, вычын якога заслугоўвае сёння нашай памяці не толькі ў межах Слонімшчыны ці Гарадзеншчыны, але і ўсёй Беларусі. Грамадскі дзяяч і палітык Вячаслаў Сіўчык адзначыў, што Міхал Валовіч свядома загінуў за Бацькаўшчыну, ён ахвяраваў сваё маладое жыццё дзеля нашчадкаў. Не было б паўстання Міхала Валовіча ў 1830-1833 гадах - не было б і 1863 года на Беларусі. Патрыятычныя беларускія песні падчас ушанавання Міхала Валовіча выканалі барды Таццяна Матафонава і Зміцер Бартосік.

***Барыс Баль,***
*Беларускае Радыё Рацыя,*
*Слонімскі раён.*
*Фота аўтара.*

## Памяць Язэпа Булак-Балаховіча ўшанавалі ў Белавежы

"Беларуская нацыянальная памяць" ушанавала Язэпа Булак-Балаховіча. У гадавіну смерці генерала сябры ініцыятывы правялі традыцыйную памятную акцыю - наведалі месца, дзе змагар за незалежнасць Беларусі быў забіты. Кажа старшыня ініцыятывы Анатоль Міхнавец:

- Мы ўшаноўваем памяць Язэпа Булак-Балаховіча, які 11 чэрвеня 1923 года загінуў у Белавежскай пушчы паміж Гайнаўкай і Белавежай. Ён быў забіты савецкімі агентамі за сваю дзейнасць, за змаганне за незалежнасць Беларусі. Жаўнеры Булак-Балаховіча актыўна дзейнічалі змагаючыся з той савецкай уладай, з СССР, як вядома, яны прызнавалі БНР. Бальшавікі хацелі забіць старэйшага брата, Станіслава Булак-Балаховіча, які кіраваў усім гэтым супрацівам, ён быў больш вядомы, але яго не было, і яны забілі Язэпа. Язэп Булак-Балаховіч пахаваны на могілках у Белавежы. Мы хочам зрабіць новы крыж, бо той крыж - драўляны. Дакладней мы хочам помнік зрабіць. Я ўжо размаўляў з унукам, бо ёсць унук іншага Булак-Балаховіча, Станіслава Булак-Балаховіча. Унук даў згоду і, можа, калі атрымаецца ўсё хутка зрабіць, дык у верасні на Дзень беларускай вайсковай славы паспрабуем зрабіць адкрыццё. Таксама ёсць ідэя, і цяпер я асабліва звяртаюся да слухачоў "Радыё Рацыя" ў Беларусі, зрабіць фэст памяці Язэпа Булак-Балаховіча, канцэрт. Белавежа знаходзіцца на самай мяжы, ёсць памежны пераход, людзі з Беларусі, асабліва з Берасця і Берсцейскай вобласці, без праблем могуць прыехаць. Размаўляем з музыкамі і сфарміруем цікавую праграму. Пахаванне генерала, які заўсёды ганарыўся сваёй беларускасцю, было вялікай і важнай падзеяй у Белавежы.




***Давід Гайко,***
*Беларускае Радыё Рацыя.*
*Фота Аляксея Трубкіна.*

ISSN 2073-7033

## 120 гадоў з дня нараджэння Пятра Татарыновіча



**Пётр Станіслававіч ТАТАРЫНОВІЧ** (15 чэрвеня 1896, в. Гайнін, Слуцкі павет, Менская губерня, цяпер Ляхавіцкі раён, Берасцейская вобласць - 3 верасня 1978, Рым; Псеўданімы: Пётр Задума; Мядзведзіцкі) - беларускі каталіцкі святар, грамадскі і культурны дзеяч, публіцыст, паэт, выдавец. Прыхільнік беларусізацыі касцельнага жыцця. Доктар тэалогіі (1950).

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі ў Слуцку вучыўся ў каталіцкай семінарыі ў Петраградзе, скончыў Менскую духоўную семінарыю. 12.6.1921 рукапаложаны ў святары. Займаўся рэлігійнай дзейнасцю ў Пінску (1921-1922), Навагрудку (1922-1924). У 1924-1926 з'яўляўся прэфектам пачатковых і сярэдняй школ у Баранавічах. П. Татарыновіч арганізаваў там Саюз каталіцкай моладзі, пабудаваў школьную капліцку. За патрыятычнае выхаванне беларускай каталіцкай моладзі пераследаваўся польскімі ўладамі, быў пераведзены на Мазовію. Пасля вяртання служыў у Дамачаве Берасцейскага павета (1927-1932), дзе аднавіў касцёл, пабудаваў плябанію, каталіцкі народны дом. У 1932-1939 спрыяў пашырэнню ўніяцтва на Століншчыне (Гарадная, Альпень, Мерлінскія хутары). У час 2-ой сусветнай вайны супрацоўнічаў з Беларускім камітэтам у Варшаве. З Варшавы пераехаў у Вільню, потым - у Менск. Выступіў з прамовай на Другім Усебеларускім кангрэсе (27.6. 1944). У канцы вайны П. Татарыновіч апынуўся ў эміграцыі. У лютым 1945 пераехаў з Ратэнбурга (Германія) у Рым.

У 1945-1949 гадах вучыўся ў Папскім інстытуце ўсходніх навук. Абараніў доктарскую дысертацыю "Святы Кірыла, біскуп Тураўскі, і яго-нае вучэнне". З 1949 да 15.1. 1971 быў кіраўніком і асноўным аўтарам беларускіх перадач "Радыё Ватыкана". Займаўся выдавецкай справай. З верасня 1950 да 1975 рэдагаваў і друкаваў у Рыме лацінкай беларускі рэлігійна-грамадскі часопіс "Зьніч" (усяго выйшла 120 нумароў). 26.5.1961 Апостальскі Пасад надаў яму званне пралата, а ў чэрвені таго ж года прызначыў чальцом Найвышэйшай рады для эміграцыі. На яго была ўскладзена адказная задача - апекавацца над беларусамі-католікамі ў эміграцыі. 21.1.1964 ён быў зацверджаны дырэктарам місіянераў для эмігрантаў-беларусаў лацінскага абраду.

Друкаваўся ў рэлігійным часопісе "Да злучэння" і іншых заходнебеларускіх выданнях. Перакладаў на беларускую мову творы дацкага паэта І. Ёргенсена (у 1926 у Вільні выдаў яго рэлігійна-філасофскі нарыс "Прыпавесці"). Аўтар (пад псеўданімам Пётр Задума) кніг "Святы Ізідар хлебароб" (Вільня, 1928), "Купалле" (Вільня, 1930) і інш.

***Вікіпедыя.***

## 75 гадоў з дня нараджэння Івана Ласкова



**Іван Антонавіч ЛАСКОЎ** нарадзіўся 19 чэрвеня 1941 года ў абласным горадзе Гомель Беларускай ССР ў сям'і рабочага. Бацька, Ласкавы Антон Іванавіч, украінец з Палтаўшчыны, які ўцёк адтуль у 1933 годзе ў Гомель, ратуючыся ад галадамору, працаваў на гомельскай цукеркавай фабрыцы "Спартак", у чэрвені 1941 года пайшоў на фронт і прапаў без вестак. Маці, Юлія Апанасаўна, якая нарадзілася ў былой Менскай губерні і да вайны працавала тэлеграфісткай у Гомелі, неўзабаве з маленькім дзіцем пераехала да сваякоў ў вёску Беразякі Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці, дзе працавала ў калгасе, памерла ў 1963 годзе. З Беразякоў, у якіх жыў да 1952 года, Ваня Ласкоў дасылаў свае допісы ў піянерскія газеты, пачаў спрабаваць сябе ў паэзіі. З 1953 года Ласкоў выхоўваўся ў Магілёўскім спецыяльным дзіцячым доме. Пасля заканчэння з залатым медалём сярэдняй школы, ён у 1958 годзе паступіў на хімічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, а ў 1966 годзе на аддзяленне перакладу ў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве, які скончыў у 1971 годзе з чырвоным дыпломам. Ад 1971 па 1978 год працаваў у аддзеле лістоў, потым загадчыкам аддзела рабочай моладзі рэдакцыі газеты "Молодежь Якутии", старшым рэдактарам аддзела масава-палітычнай літаратуры Якуцкага кніжнага выдавецтва (1972-1977). З 1977 году ён старшы літаратурны рэдактар часопіса "Полярная звезда"; у 1993 г. загадвае аддзелам крытыкі і навукі. Узнагароджаны Ганаровай Граматай Прэзідыуму Вярхоўнага Савета ЯАССР. Сябар СП СССР з 1973 г. Памёр пры загадкавых абставінах 29 чэрвеня 1994 г. у прыгарадзе Якуцка.

***Вікіпедыя.***

# Пра "20 крокаў да беларускай мовы"

Выйшла з друку і трапіла ў продаж кніга Алесі Літвіноўскай і Глеба Лабадзенкі "20 крокаў да беларускай мовы". Кніжка па-свойму ўнікальная, ёй цяжка знайсці аналаг на дадзены момант.

Выхад кніжкі назваць сенсацыяй нельга. Аўтары ўжо больш за два гады паспяхова вядуць курсы беларускай мовы "Мова Нанова". Сетка курсаў шырыцца па краіне і па свеце, заняткі наведалі тысячы чалавек. Паўстала і тэлеверсія заняткаў, праўда што выпускі там вельмі лаканічныя. З'яўленне друкаванага выдання курсаў выглядае як цалкам лагічны наступны ход. З аднаго боку, курсы вядуцца пакуль у дзесяці гарадах Беларусі (запускаецца адзінаццаты), а трапіць трэба да публікі ў кожным кутку краіны (і эміграцыі). З другога, выпрацавана ўжо пэўная схема, і кніжка дэ-факта будзе "метадычкай" для новых месцаў "франшызы". З трэцяга, кніжка з'яўляецца ў пэўным сэнсе "альбомам", які падагульняе прыгоду мінулых сезонаў "Мовы Нанова". Нарэшце, з чацвёртага, "20 крокаў" бачацца пэўнай ступенню ўгару ў параўнанні з дзвюма "Дзіцячымі ЗаМовамі" Глеба Лабадзенкі, больш грунтоўнай і ўсеагульнай працай.

Калі "Дзіцячыя ЗаМовы" можна з пэўнасцю назваць поспехам, то мяркую, што "20 крокаў" будуць яшчэ больш вялікай падзеяй. Дапаможнік (менавіта так яго акрэсліваюць аўтары) будзе яскрава вылучацца сучасным падыходам і свежай рэалізацыяй у параўнанні са школьнымі падручнікамі. "20 крокаў" напэўна будуць раіць як дзецям і моладзі, так і дарослым. Раю кніжку і я.

Да выразных плюсаў выдання можна залічыць наступнае. Першае - дасціпнасць і даступнасць. Галоўнае, з чым змагаецца "Мова Нанова" - з падыходам да беларускай мовы як да некай нуднай састарэлай спадчыны дзядоў, ці то вясковых, ці то менскіх літаратараў-прафесараў. У аўтараў "20 крокаў" мова з'яўляецца цікавай і вясёлай прыгодай, а чытанне кніжкі - лёгкім і прыемным.

Другі плюс - актуальнасць, апеляцыя не толькі да "сівой даўніны", але і да новай, сучаснай культуры. Напрыклад, прыведзены прыклады ўжывання нашай мовы ў самай свежай рэкламе і ў маркетынгу. А за ўключэнне лірыкі "Менск і Мінск" хочацца сказаць асобнае шчырае "дзякуй".

Трэцяя перавага выдання - смеласць аўтараў. Датычыць гэта і пытанняў моўных, і культурных, і проста жыццёвых. Лабадзенка і Літвіноўская не сталі пазбягаць тэмаў, якія ў нас лёгка залічваюць да "невыгодных" ці "небяспечных". Проста і даступна расказана і пра "тарашкевіцу", і пра лацінку, і пра нашу сапраўдную гісторыю. Натуральна і годна выкладаюць аўтары тэму інваліднасці. Без ханжаства даюць тэму беларускай лаянкі і не абмінаюць "непрыстойныя" часткі цела чалавека.

Мяркую, што гэтыя тры галоўныя перавагі зробяць кнігу ўпэўненым бестселерам.

У той жа час хацелася б адзначыць і галоўны мінус кніжкі. І гэта - абсалютная, татальная бескрытычнасць аўтараў да модных цяпер неафіцкіх здзекаў з беларускай мовы. Загадзя апраўдваючыся за гэта яшчэ ў прадмове, аўтары здымаюць з сябе адказнасць за падобныя рэчы. Яны кажуць: *"...прыйшла ідэя выдаць гэты дапаможнік. Мы адмыслова не называем яго "падручнік", бо не прэтэндуем на акадэмізм і навуковасць. ...Гэта не значыць, што інфармацыя тут недакладная ці некампетэнтная. Але гэта значыць, што поруч са слоўнікавым "акцёрам" з'явіцца пашыраны ў жывой гаворцы "актор", "камп'ютар" будзе стаяць перад "камп'ютарам", а слэнгавыя словы і лаянкавыя выразы таксама знойдуць сабе месца пад гэтай вокладкай."*

Адразу можна зазначыць пэўную хібнасць і ненатуральнасць мудрагелістай фармулёўкі - ужо хаця б таму, што згодна ТСБМ "дапаможнік" (кніга, якая выкарыстоўваецца пры навучанні чаму-н.) і "падручнік" (кніга, па якой вывучаюць які-н. прадмет) гэта фактычна тое самае, а слова *актор* з'яўляецца таксама слоўнікавым, як і *акцёр* (пра што самі ж аўтары і казалі ў тэлеверсіі).

Але пра што дакладна вядзецца гутарка? Прывядзем некалькі прыкладаў.

У двух "кроках" напісана дакладна: *"лядоўня (рус. холодильник)"; "лядоўня/халадзільнік"* (далей прыведзены прыклады ўжывання). Дадам, што ў "Дзіцячай ЗаМове" Глеб наўпрост піша *"лядоўня=халадзільнік"*. На самай справе, гэта розныя рэчы. ***Лядоўня*** па-руску *"лЕдник"*, а не "холодильник"; *лядоўня* - гэта пограб/склеп у зямлі, напоўнены лёдам і снегам, дзе сяляне захоўвалі мяса і рыбу. ***Халадзільнік*** (рус. "холодильник") - гэта прылада/шафа, якая халодзіць ежу. Слова *"халадзільнік"* існуе ў нашай мове больш за сто год, і ніколі яно не замінала ані Луцкевічам, ані Станкевічам, ані Лёсікам. Байкоў-Некрашэвіч ужо 90 год таму прыводзяць *"лядоўню"* і *"халадзільнік"* з выразна адрознымі перакладамі (прыведзенымі вышэй) і не блытаюць іх. Называнне халадзільніка "лядоўняй" з'яўляецца грубай моўнай памылкай. Варта было гэта зазначыць.

У кроку "Адзенне" мы сустракаем усе знаёмыя нам "модныя" слоўцы… Выява футболкі няправільна падпісана: *"Саколка"*, а адпаведны тэкст выглядае так: *"Саколка/цішотка/майка/вышымайка (майка з арнаментам)"*. Праз касую рысу варта даваць непасрэдныя заменнікі (абсалютныя сінонімы), як гэта і зроблена ў кнізе ў іншых выпадках. Але не ў гэтым. ***Майка*** (замест гэтага агульнаўжывальнага слова ў нас сталі ўзмоцнена прасоўваць рэдкае слова *"саколка"*) і ***футболка*** (гэтае слова ўвогуле старанна пазбягаецца ў "20 кроках", як і ў "ЗаМовах"; замест яго актыўна прасоўваецца брыдкая трасянкавая *"цішотка"*) - гэта РОЗНЫЯ тыпы спартовых трыкатажных кашуль: майка без рукавоў і каўняра, футболка з рукавамі і магчымым каўняром.

Пры слове ***"пінжак"*** аўтары пішуць: *"Хто-ніхто ўжывае таксама слова **"марынарка"**, наўпрост запазычанае з польскай мовы"*. Цікавая заўвага, да якой яшчэ вернемся пазней. Тут жа хацелася б зазначыць, што *"марынаркі"* ў беларускай мове няма ўвогуле, варта было гэта так непасрэдна і напісаць, або проста не згадваць няіснае слова. А праз касую рысу (калі ўжо сапраўды патрэбныя сінонімы) да *"пінжака"* карысна было б даць нашыя народныя варыянты: *"спінжак"* (ёсць у Кузьмы Чорнага) і *"пільчак"* (ёсць у Байкова-Некрашэвіча, Якуба Коласа).

Чарговы яскравы наш прыклад - шматпакутныя нашы ***трусы***. У "20 кроках", як і ў "ЗаМовах", аўтары даюць у якасці першага слова памылковае *"майткі"*, а агульнаўжывальнае і правільнае *"трусы"* даюць толькі праз касую рысу або ў дужках. Тым часам хочацца спытацца, а чаму ж у дадзеным выпадку, у адрозненні ад *"марынаркі"*, аўтары не падкрэсліваюць, што *majtki* - польскае слова ў значэнні "трусы"? І ўжыванне яго як раз сведчыць пра слабое валоданне беларускай мовай. Бо ў нашай мове *"майткі"* - гэта абласное, дыялектнае слова са значэннем "штаны". Менавіта так пазначана і ў слоўніках, і ў ДАБМ; менавіта ў гэтым значэнні *"майткі"* ўжываюцца ў Коласа і Караткевіча.

Дарэчы кажучы, у "20 кроках" добра і з многімі класічнымі прыкладамі апісана з'ява міжмоўных амонімаў/паронімаў. Канешне ж, прыклады пададзены пераважна руска-беларускія - *кресло-крэсла, речь-рэч, диван-дыван* і гэтак далей. Дык вось польская *'majtki'* і беларуская *майткі(=штаны)* - гэта як раз яскравы прыклад міжмоўных амонімаў, але ж гэты выпадак аўтары не выпраўляюць, а наадварот распаўсюджваюць.

Зрэшты, тым жа самым ***штанам*** таксама не пашчасціла. З імі актыўна змагаюцца, як і са словамі *"халадзільнік"*, *"футболка"* ці *"трусы"*. У "20 кроках" у якасці асноўнага азначэння даюцца *"нагавіцы"*, потым *"порткі"*, і толькі потым *"штаны"*. То хочацца сказаць: "Дзякуй богу, што хоць як узгадалі, бо ў "ЗаМовах" беларускае слова *"штаны"* ўвогуле пазбягаецца і не ўжываецца". Тым часам, і слоўнікі, і літаратура, і ўрэшце ДАБМ выразна паказваюць: найшырэй распаўсюджаным і агульнаўжывальным з'яўляецца менавіта варыянт *"штаны"*, у той час як абласнымі і нашмат радзейшымі ёсць *"нагавіцы"*, *"ганавіцы"*, *"порткі"*, *"брукі"* (sic!) і нарэшце вышэйзгаданыя *"майткі"*. А таму ў дапаможніку, які мае трапіць да найшырэйшай публікі, варта ўсё ж даваць найбольш ужываныя варыянты слоў, а не падтрымліваць дурную барацьбу супраць іх.

Гэта не ўсе прыклады неахайнага стаўлення да беларускай лексікі ў "20 кроках", можна пералічваць і іншыя, такія як недарэчнае і брыдкае для беларускага вуха *"бёдуочар"* (!!!), якое прапануецца ўжываць замест нармальнага *"назіральнік за птушкамі"*. Залішне падкрэсліваць відавочнае: нават калі такі варварызм і ўжываецца ў колах вузкіх спецыялістаў, не варта прасоўваць такую недарэчнасць у агульны ўжытак (таксама як і якія-небудзь *"івэнты"* замест *"падзей"*, або *"таргэты"* замест *"мэтаў"*).

Чаму абсалютна некрытычнае стаўленне аўтараў "20 крокаў" да навамодных вычварных дзівацтваў так адметнае? Ды таму, што гэта яскрава вылучаецца як адзіная з'ява, важная пры вывучэнні мовы, якую аўтары ігнаруюць. Бо яны ж добра тлумачаць і *столь/стол*, і што такое *"вырай"*, і тое, што *"марынарка"* - паланізм, і ўзгадваюць пра выбухное *"г"*, і прадухіляюць памылкі з націскамі, і памылкі з граматычным родам *"сабакі"* або *"туфля"* і гэтак далей, і гэтак далей. Усе тыя важныя заўвагі, якія даўно сталі "класічнымі" пры вывучэнні нашай мовы (ва ўмовах русіфікацыі), старанна і падрабязна, пры тым зразумела распісаныя. І толькі ў дачыненні да памылковых і недарэчных *"майтак"*, *"лядоўні"* ці *"цішоткі"* аўтары бестурботна заплюшчваюць вочы і не толькі не прадухіляюць некарэктнае ўжыванне, але і стымулююць яго.

Сказаўшы ўсё гэта, я ўсё адно хачу падкрэсліць, што "20 крокаў" належыць купляць, пашыраць і распаўсюджваць. Чаму? Таму што лепшых аналагаў зараз проста няма. На жаль. Бо як раз-такі, калі б была жорсткая канкурэнцыя падобных выданняў, магчыма, і патрабаванні да зместу былі б вышэйшыя.

А так мы сапраўды цешымся поспеху "Мовы Нанова". Кажу гэта шчыра, бо сам намагаюся прычыніцца да яго.

Напэўна выйдуць і чарговыя выпускі "Крокаў", бо тэмаў, закранутых на курсах, у разы болей, чым дваццаць. Не бяруся сцвярджаць, што тэма неафіцкай гульні ў змаганне супраць беларускіх словаў згодна з максімай "як заўгодна нядбала, абы каб непадобна да расейскай" з'яўляецца годнай асобнага "кроку". Але прынамсі хацелася б выказаць пажаданне, каб аўтары, якія ў прадмове згадваюць "слэнгавыя словы", сапраўды пазначалі слэнг і жаргон як слэнг і жаргон, варварызмы як варварызмы, а памылкі як памылкі, а не ўсё гэта называлі псеўдацнатліва "жывое маўленне". У рэшце рэшт, трасянку або і проста забіццё беларускай мовы праз русіфікацыю пры такім падыходзе можна было б апраўдаць "жывым маўленнем"…

За выняткам жа гэтай заўвагі хацелася б яшчэ раз параіць кніжку шырокай публіцы і выказаць упэўненасць, што "20 крокаў" стануць лідарам продажаў і падзеяй на літаратурным рынку.

*С. Раманчук.*

## Вінцук Вячорка ў Русінах




11 чэрвеня на офісе ТБМ у Русінах мовазнавец Вінцук Вячорка прэзентаваў сваю новую кніжку "Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам". Сабраліся людзі рознага ўзросту - ад дзяцей да старых, усяго чалавек 50.

Размова ішла пра стан беларускай мовы ў Берасцейскай вобласці і рэгіёне Баранавічаў згодна з апублікаванымі статыстычнымі дадзенымі па выніках апошняга перапісу насельніцтва. Калі кіравацца гэтымі лічбамі, то ў Баранавічах павінна быць каля трох беларускіх школ. На практыцы бацькі ледзь дамагліся стварэння беларускамоўнага класа. Вось што значыць жыць на акупаванай "рускім светам" тэрыторыі!

Цікавы быў расповед пра імёны, якія прыйшлі са старажытнай Грэцыі і Ізраіля. Як адны і тыя імёны сталі гучаць прыйшоўшы на нашы землі праз шлях каталіцкай ці праваслаўнай цывілізацыі. Гучанне і напісанне многіх адных і тых жа імёнаў адрозніваецца да столькі, што пазнаць не магчыма.

Спадар Вінцук распавёў таксама пра сёмы (клічны) склон, паказаў на прыкладах паэзіі і прозы, як ён упрыгожвае беларускую мову. Гэты склон зліквідавалі са школьных падручнікаў рэформай 1933 года, калі пасля вынішчэння лепшых беларускіх лінгвістаў у Акадэміі Навук засталіся працаваць прыстасаванцы пад кіраўніцтвам расійскіх спецыялістаў.

Усё вышэйсказанае і многае іншае, пра што гаварылася на сустрэчы, ёсць у кнізе "Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам". Кніга выдадзена ў бібліятэцы Свабоды. Ахвотныя атрымалі ў якасці падарунка кнігі з аўтографам аўтара.

***Мікалай Падгайскі.***

# Віктарына

**Знаць Чачота ўсе павінны…**

***Францішак Багушэвіч***

Ян Чачот - адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, першая зорка на небасхіле нашага нацыянальнага адраджэння. Без перабольшвання, Ян Чачот - наш зямляк, бо многія мясціны Баранавіцкай зямлі звязаны з яго жыццём і творчасцю. Баранавіцкае аддзяленне Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны запрашае жыхароў нашага горада і раёна прыняць удзел у віктарыне, прысвечанай 220-годдзю з дня нараджэння Яна Чачота. Прапануем адказаць на наступныя пытанні:

1. Дзе і калі нарадзіўся Ян Чачот? Дзе ён быў ахрышчаны?
2. У якіх навучальных установах вучыўся Ян Чачот?
3. Назавіце імя аднакласніка і сябра Яна Чачота па Дамініканскай школе, што ў будучым праславіў сваё імя не толькі на радзіме, але і ў свеце.
4. У працы якой тайнай студэнцкай арганізацыі актыўна ўдзельнічаў Ян Чачот? Якім аддзелам згуртавання ён кіраваў?
5. Якія наступствы для Яна Чачота меў удзел у Таварыстве філарэтаў?
6. Дзе ў Баранавіцкім раёне знаходзіцца помнік прыроды Камень філарэтаў, чаму ён мае такую назву?
7. Якія балады Яна Чачота зместам звязаны з Баранавіцкім краем? Чаму сябры называлі паэта Ян з Мышы?
8. Якія яшчэ мясціны Баранавіцкага раёна непасрэдна звязаны з жыццём Яна Чачота?
9. Як ушанавана імя Яна Чачота на Баранавіцкай зямлі?
10. Як называецца паэтычны твор Яна Чачота пра гістарычнае мінулае Беларусі, пра часы Вялікага Княства Літоўскага? Каму прысвяціў ён гэты твор?
11. Якія кірункі дзейнасці Яна Чачота садзейнічалі захаванню і развіццю культурных скарбаў беларускага народа?
12. Пра які дар гаворыцца ў вершы Яна Чачота:

*...Я з сэрцам удзячным дар шчодры во гэты*
*Кладу перад вамі, мрою:*
*Калі і да вас блісне промень асветы,*
*Вы возьмеце дар мой з сабою…*
*і каму прызначаўся гэты дар?*

13. У якой працы Яна Чачота выказваецца шкадаванне, што *"...мова даўніх жыхароў нашага кутка гіне і з часам зусім можа загінуць"*?

Адказы на пытанні можна дасылаць да 05.07.2016 г. па адрасе: г. Баранавічы, Брэсцкай вобл., вул. Наканечнікава, 35/2-3, альбо на эл. пошту: uberales93@gmail.com.

Вынікі віктарыны будуць падведзены на імпрэзе ў гонар Яна Чачота, месца і час правядзення ўдакладняюцца.

*Навіны Германіі*

*Пётра Садоўскі*

# Як ствараюцца школьныя падручнікі ў ФРГ

*(Працяг у наст. нумары.)*

**ЯК ПРАЦУЮЦЬ РЭЦЭНЗЕНТЫ?**

Пасля прагляду ў міністэрстве дасланых папер на камплектнасць і першую ацэнку знешняга выгляду кантрольных экземпляраў падручнікаў пачынаецца працэс экспертызы. З "пулу экспертаў", які міністэрства мае для кожнага прадмета, выбіраюцца два спецыялісты з выключна высокай падрыхтоўкай. Як правіла, выбіраюцца эксперты рознага ўзросту з розных частак Баварыі, якія, акрамя навуковай кваліфікацыі, маюць досвед практычнага выкладання. Экспертам прапануўваецца змешчаны ў інтэрнэце (даступны для ўсіх зацікаўленых) на сайце міністэрства каталог з назвай "Крытэрыі для экспертнай ацэнкі навучальных сродкаў" (Kriterien zur Begutachtung von Lernmittel) памерам на 13 старонак. Яшчэ на гэтым жа сайце побач ёсць дадатковыя тлумачэнні і патрабаванні для асобных прадметаў і пэўных тыпаў школ (27 - 28 старонак). Актуальная версія патрабаванняў адпавядае ранейшай, можа быць толькі трохі дапрацаванай. Апошнім часам з'явілася патрабаванне, каб рэцэнзенты не давалі занадта навуковых заўваг на адрас выдавецтва і аўтараў, а строга прытрымліваліся рэкамендацый каталога.

У каталозе фармулююцца асноўныя прынцыпы, фармальныя патрабаванні для афармлення, аспекты, звязаныя з аб'ёмамі і зместам навучальных планаў, а таксама звяртаецца ўвага на тое, каб у падручніку не было элементаў рэкламы. Па асобных пунктах каталог утрымлівае патрабаванні, сфармуляваныя ў форме "падручнік павінен ...", аднак у ім звяртаецца ўвага на тое, што рэцэнзент мусіць кіравацца "здаровым сэнсам" і катэгорыямі "прыдатнасць", "адпаведнасць" і г. д. Тут рэцэнзент шмат што вырашае сам. Патрабаванні каталога больш скіраваныя на спецыфіку прадмета, аднак яны не ціснуць на агульны падыход эксперта, каб атрымаць "інтэрсуб'ектыўныя параўнальныя ацэнкі". І гэта якраз можа стаць крыніцай разыходжанняў паміж рэцэнзентамі і паміж выдавецтвам і аўтарам, якія ўжо ў сваіх папярэдніх кантактах прыйшлі да пэўнага разумення асобных праблемаў.

Усе недахопы з пункту гледжання розных бакоў павінны быць запратакаляваны і абгрунтаваны, каб потым быць узгодненымі і папраўленымі.

Рэцэнзентам даецца шэсць тыдняў, каб падрыхтаваць заключэнне аб'ёмам 10-20 старонак. У канцы рэцэнзіі павінна быць змешчана заключэнне пра допуск. Калі заключэнне станоўчае, эксперт можа адзначыць, што публікацыя магчымая ў пэўныя тэрміны пры ўмове выпраўлення неістотных недахопаў. Як неістотныя называюцца такія, напрыклад, як: выкрэсліванне без замены пэўных сказаў, скарачэнне без замены пэўных ілюстрацый, выкіданне пэўных абзацаў, замена некаторых тэкставых пасажаў на ўжо раней вядомыя і г. д.

Ганарары рэцэнзентам аплочваюцца за кошт выдавецтваў.

На аснове заключэння экспертаў міністэрства прымае рашэнне. Крытычныя заўвагі экспертаў аналізуюцца. Пры разыходжанні ацэнак міністэрства прымае сваё рашэнне. На адрас выдавецтва можа быць складзены спіс заўваг рэцэнзентаў (ананімна) і дадатковых заўваг міністэрства для правак перад друкам.

Калі ўсе неабходныя змены зроблены і ўсе сумненні зняты, падручнік дапускаецца да друку. Пры гэтым на сайце Міністэрства адукацыі і культуры сярод іншых наяўных змяшчаецца інфармацыя пра новы дапушчаны падручнік. Калі па нейкіх прычынах падручнік знікае пазней са спісу сайта, дазвол лічыцца скасаваным. Пакуль назва пэўнага падручніка застаецца на сайце, ён можа выкарыстоўвацца, пакуль не "зносіцца". Магчымыя далейшыя перавыданні падручніка. Звычайна гэта адбываецца праз 5 гадоў. Пры перавыданнях абавязкова ўлічваюцца магчымыя змены, звязаныя з заўвагамі педагогаў-практыкаў ці іншымі фактарамі. Натуральна, змены ўносяцца, калі мяняюцца праграмы. Змены зместу даводзяцца да выдавецтва за 6 месяцаў.

Працэдура допуску падручнікаў, якой кіруюць даследчыя педагагічныя цэнтры ці інстытуты, мала чым адрозніваецца ад вышэй апісанай баварскай, што курыруецца міністэрствам. У Паўночным Рэйне-Вестфаліі быў адзінкавы выпадак, калі допускам займалася спецыяльная камісія, утвораная ў 1972 г. пад кіраўніцтвам Георга Экерта. У камісію ўваходзілі 20 экспертаў (вучоныя і настаўнікі-практыкі). Яны займаліся выключна аналізам зместу падручнікаў па гісторыі. Пазней камісія перадала свае кампетэнцыі педагагічнаму даследчаму цэнтру.

У другой частцы публікацыі пра "нараджэнне" школьных падручнікаў у Германіі гаворка вядзецца пра досвед федэральнай зямлі Берлін, дзе гарадскі сенат цалкам перадаў кампетэнцыю экспертызы і выбару падручнікаў прадметным метадычным аб'яднанням і нарадам кіраўнікоў школ, якія ўлічваюць меркаванні настаўнікаў-практыкаў і бацькоўскіх камітэтаў.

На заключэнне ідзе кароткі агляд дыскусійных пытанняў у асяродку нямецкіх настаўнікаў па закранутай тэме і дадзены спіс перыядычных выданняў ФРГ, дзе абмяркоўваюцца праблемы падручнікаў. Большасць дыскутантаў схіляецца да думкі, што залішняя цэнтралізацыя становіцца тормазам для развіцця інавацый і эўрыстычнага мыслення навучэнцаў.




*Табліца "Працэдура допуску падручнікаў да друку ў Баварыі"*

* * *

Увогуле, цікаўным раім смялей уключацца ў інтэрнэт-пошук, набіраючы ключавыя словы на вядомых вам мовах па тэме "Допуск падручнікаў". Па-нямецку гэтае слова - Schulbuchzulassung. Па-англійску - Schoolbook Authorization ці Textbook Authorization. Пры першай спробе англійскага пошуку вы адразу выйдзеце, напрыклад, на назву "Textbook Authorization System in the Republic of Korea". Паўднёвая Карэя, ці проста Карэя, - на сённяшні дзень адна з самых перадавых краін свету паводле школьнай ды ўніверсітэцкай адукацыі. Неўзабаве яна, пэўна, перагоніць найлепшыя ўніверсітэты Брытаніі. Па-французску можна набраць ключавыя словы "Autorisation de livres de classe dans + назва краіны па-французску" і атрымаць цікавую інфармацыю. Французы кажуць: "Падручнікі гісторыі ствараюць народ". У французаў добрыя школьныя падручнікі.

**ЧАСТКА II**

**ЯК НАСТАЎНІКІ САМІ РЭЦЭНЗУЮЦЬ І ВЫБІРАЮЦЬ ПАДРУЧНІКІ (берлінскі досвед)**

У федэральнай зямлі Берлін гарадскі сенат перадаў цалкам кампетэнцыю экспертызы і выбару падручнікаў прадметным метадычным аб'яднанням і нарадам кіраўнікоў школ, якія ўлічваюць меркаванні настаўнікаў-практыкаў і бацькоўскіх камітэтаў. Гэта адбылося ў 2008 г.

За Берлінам да гэтага працэсу далучыліся Саарлянд і Шлезвіг-Гальштэйн. Прадметнае метадычнае аб'яднанне і дырэктар школы пакідаюць настаўнікам права самім выбіраць падручнік. Паколькі падручнікі бясплатныя, то трэба ўкладацца ў пэўны ліміт. У "Законе аб школе", які прымаецца зямельным сенатам, настаўнік-прадметнік мае права, паводле прынцыпу "мультыперспектыўнасці", сам уносіць пэўныя ўдакладненні і пашыраць падразглядную праграмную праблематыку. Пры прыняцці рашэння аб выбары таго ці іншага падручніка, акрамя думкі дырэктара, прадметнай камісіі ды настаўніка, улічваецца і меркаванне вучняў (пачынаючы з 8-га класа), якое фармулюецца "спікерам класа" (Klassensprecher).

У невялічкай зямлі Саарлянд, абмежаванай у сваіх фінансавых магчымасцях, дазваляецца карыстацца падручнікамі, выдадзенымі ў суседніх федэральных землях, натуральна, з захаваннем адпаведных прававых нормаў. У некаторых выпадках (пры адпаведнай кваліфікацыі) настаўнік мае права працаваць увогуле без падручніка. Галоўнае - "вынік на выхадзе".

Абраны падручнік, аднак, павінен абавязкова:

- не пярэчыць агульным прававым нормам,
- адпавядаць мэтам, зместам і стандартам рамачных навучальных планаў,
- карэктна суадносіцца з метадычнымі і дыдактычнымі педагагічнымі патрабаваннямі,
- быць на ўзроўні дасягненняў сучаснай навукі і не ўтрымліваць памылак у прадметных апісаннях,
- не спрыяць гендэрным, рэлігійным і расавым узрушэнням.

**МУЛЬТЫПЕРСПЕКТЫЎНАСЦЬ: ПАДРУЧНІК, НАСТАЎНІК, ВУЧАНЬ (з уласнага досведу аўтара)**

У першай частцы нашай публікацыі пра нямецкія школьныя падручнікі ўжо адзначалася, што адным з галоўных патрабаванняў да кожнай новай кнігі з'яўляецца прынцып так званай мультыперспектыўнасці, які чырвонай ніткай праходзіць праз усе ўзроўні, пачынаючы ад тых, якімі займаюцца вучоныя-канфліктолагі, што складаюць, напрыклад, мадэлі сумесных падручнікаў гісторыі з іншымі краінамі, і да метадычна-дыдактычнага выкладу матэрыялу, які б праграмаваў і стымуляваў розныя пункты погляду навучэнцаў на падразглядныя праблемы.

Супрацоўнічаючы на працягу пяці гадоў (1997 - 2001) з Інстытутам Георга Экерта, я меў магчымасць назіраць за практычнымі занядкамі (семінарамі) па грамадазнаўстве, гісторыі ды эканамічнай геаграфіі ў выпускных класах гімназій, навучэнцы якіх мелі намер займацца ва ўніверсітэтах. Пэўным недахопам гэтых наведванняў было тое, што ўсё ж кіраўніцтва школы і настаўнікі былі праінфармаваныя пра магчымы візіт стажораў і аўтараў з ГЭІ. Апішу толькі адны семінарскія заняткі (два спараныя ўрокі) у 12-м класе гарадской гімназіі па інтэграванай тэме "Шляхі мінімізацыі беспрацоўя" ў невялікім гарадку Хаген, што недалёка ад Дортмунда і Бохума. Варта адзначыць, што гэтыя заняткі я наведаў зусім выпадкова. Ні настаўнік, ні дырэктар не ведалі, што на ўроку будзе нейкі госць. Па маёй просьбе ў гімназію мяне прывяла загадчыца прыватнай юрыдычнай канторы, якая ўзначальвала мясцовае партнёрскае таварыства "Хаген - Пінск", дзе я, як былы амбасадар, выступаў з лекцыяй пра Беларусь.

Цікава, што адразу была дадзена згода на наведванне без усялякіх пытанняў. Наадварот, настаўнік узрадваўся: "Я і Вас выкарыстаю: раскажаце, як змагаюцца з беспрацоўем пры рынкавым сацыялізме з пераважнай дзяржаўнай уласнасцю". Быў 1998 год.

Знешнія ўражанні: на паркавачнай пляцоўцы для навучэнцаў гімназіі (для настаўнікаў была асобная) былі дзясяткі два машын. Прыязджаюць і дзеці з наваколля. Сцены галоўнага фае зроблены як бы з гумы, лёгка праціраюцца. Гардэроб у класе. У кутку нешта накшталт буфета. Вучні сядзяць за сталамі. На сталах мінеральная вада, ноўтбукі, дыктафоны, нават - шалікі, кофты. Не пытаючыся дазволу, некалькі вучняў выходзілі на кароткі час з класу. Клас невялікі - 14 чалавек.

Па тэме настаўнік загадзя даў спіс літаратуры і тэматычны матэрыял: праграма мінімізацыі беспрацоўя Федэральнага ўраду, Саюзу германскіх прафсаюзаў і фірмы "Фольксваген". Сярод спісу рэкамендаванай літаратуры была і англамоўная. Памятаю, было нешта з ключавым словам "кейнзіянства", дзе гаварылася пра ўнутраны рынак спажывання, грашовую масу і памер выплатаў для беспрацоўных. Быў дадзены план крытычнага разбору з абавязковым уласным рэзюмэ. Пытанні размяркоўваліся загадзя. Вялі семінар два мадэратары-вучні. Адзін рэпрэзентаваў хрысціянскіх дэмакратаў (кіруючая партыя), другі - сацыял-дэмакратаў (апазіцыя). Пасля трох 10-хвілінных паведамленняў адбылася дыскусія. Такі маленькі парламент. Уражанне выдатнае. Дыскусія вялася лагічна: тэзіс - антытэзіс - тэзіс. Цытаванне апанентаў. Настаўнік умешваўся толькі некалькі разоў кароткімі рэплікамі. Цікава, што некаторыя дзеці з не вельмі заможных сем'яў (даведаўся пра гэта пазней) выступалі шчыра і эмацыйна як правыя кансерватары. Тады, у канцы 90-х, і "хадэкі" яшчэ не пазіцыянавалі сябе як "правыя цэнтрысты".

Прынцып "мультыперспектыўнасці" быў закладзены і ў адпаведным раздзеле падручніка па грамадазнаўстве, які называўся "Politik" (з даткам задач-пытанняў), і ў тэкстах праграмаў ураду, прафсаюзаў і паспяховай фірмы. У дыскусіі было выказана шмат цікавых заўваг. Двое вучняў незапланавана рабілі спасылкі на праграму Маргарэт Тэтчар. У канцы настаўнік зрабіў рэзюмэ. Адзнакі выступоўцам выстаўляліся калектыўным галасаваннем. Настаўнік меў два галасы. Пыталіся і маю думку. Выступіць і расказаць пра Беларусь я не паспеў. Запрасіў гімназістаў на гутарку ўвечары ў ратушу. Некалькі мясцовых прыйшлі і задавалі пытанні.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# “Пра крочанае” Міколам Лавіцкім

*Сябар ТБМ Мікола Лавіцкі выдаў кнігу "Пра крочанае". У кнізе, акрамя іншага, змяшчаецца цікавае апісанне стварэння ТБМ "Як пачыналася ТБМ".*




## Як пачыналася ТБМ

Пасля таго як былі прынятыя Закон аб мовах, Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР, на Менскім аўтазаводзе адны з нершых у краіне распрацавалі адпаведныя мерапрыемствы па выкананні патрабаванняў Закона і Праграмы. Асаблівая заслуга, без перабольшвання адзначу, належала тагачаснаму генеральнаму дырэктару ВА "БелаўтаМАЗ" Міхаілу Лаўрыновічу. Ён, будучы дэпутатам Вярхоўнага Савета, падтрымаў прыняцце Закона. Ганарыўся гэтым і казаў, што яму сам Гілевіч у знак падзякі паціснуў руку. Генеральнага дырэктара падтрымлівалі і яго намеснікі. Амаль усе яны былі сябрамі заводскай арганізацыі ТБМ. Стваралася яна з ініцыятывы саміх людзей. Парткам завода ўхіліўся ад гэтага. Помніцца, на нарадзе ў сакратара парткама я, як намеснік старшыні прафкама і адказны за культурнамасавую і арганізацыйна-масавую работу, спасылаючыся на надрукаваны ў “Аўтазаводцы” 26 ліпеня 1989 года статут Таварыства беларускай мовы, прапанаваў падтрымаць ініцыятыву сгварэння ТБМ. На што пачуў адказ: "Так это же БНФ, ты что, хочешь им помогать?". Абышліся без іх. Актыўную пазіцыю праявілі на заводзе сябры Народнага фронту, Сацыял-дэмакратычнай грамады. Узначальваў гэтую грамадскую дзейнасць старшы майстар электратэхнічнага цэха Барыс Родзіч. На заводзе было створана каля 20 суполак у розных цэхах. Была агульная заводская Рада, якую узначальвала тэхнолаг тэрмічнага цэха Бранісдава Грэская. Актыўна, уласным прыкладам дапамагалі стварэнню ТБМ на заводзе і ў Заводскім раёне Павел Дзімітрук, Барыс Родзіч, Лявон Белабароды, Людміла Воблава, Ларыса Казачок, Якаў Карпоўскі, Любоў Бельская, Георгі Філончык і шмат іншых. Тады вельмі прыязна і з павагай ставіліся завадчане да тых, хто гаварыў ці спрабаваў гаварыць па-беларуску, пакуль не пачалася шалёная антынацыянальная прапаганда, узнятая камуністамі-наменклатурнікамі праз радыё, тэлебачанне ды спецагентурай. Гаворыш па беларуску - бэнэфавец, а бэнэфаўца пачалі атаясамляваць з фашыстамі. Цяпер ужо сцішыліся, зацiхлі, бо дасягнулі таго, да чаго імкнуліся.

Заводская раённая арганізацыя ТБМ была створана 17 кастрычніка 1990 года. На ўстаноўчым сходзе прысутнічала 65 чалавек. Была выбрана Рада ў складзе 21 чалавека, у якую увайшлі пераважна супрацоўнікі школ, бібліятэк. З прадпрыемстваў былі толькі прадстаўнікі аўтазавода і "Белэнергаспецрамонта" (агулам 4 чалавекі). У Раду абралі намесніка старшыні Заводскага райвыканкама, інспектара РАНА, інспектара райвыканкама. Старшынёй стала Ганна Раднова, кіраўнік літаратурнага клуба Дома піянераў. У тым годзе Рада вылучыла кандыдатаў у раённы, гарадскі і Вярхоўны саветы. А праз год з прапановы Барыса Родзіча старшынём раённай Рады выбралі мяне. На аўтазаводзе я падрыхтаваў праект загаду- пастановы, які без усялякіх ваганняў пры адсутнасці генеральнага дырэктара падпісаў яго намеснік Георгі Ісаевіч. А вось старшыня прафкама заўпарціўся, не ўспрымаў гэта ўсур'ёз, і пад тым гістарычным для завода дакументам стаіць мой подпіс. Нумар яго 789/127, ад 06.08.1990 года: "Аб падрыхтоўцы да ўвядзення ў дзеянне "Закона БССР аб мовах у Беларускай ССР" на Мінскім аўтазаводзе". У ім прадугледжвалася падрыхтоўка канцылярскіх машынак да друкавання на беларускай мове; набыццё для падраздзяленняў завода руска-беларускага і беларуска-рускага слоўнікаў; арганізацыя аддзелам кіравання па падрыхтоўцы кадраў занятkaў па беларускай мове; даплата і прэміяванне машыністак, якія друкуюць і перакладаюць на дзве мовы; прапанаваць рэдакцыі радыёгазеты перайсці на беларускую мову, а рэдакцыі дзвюхмоўнага "Аўтазаводца" - адзін раз на тыдзень цалкам выпускаць нумар на дзяржаўнай мове; перагледзець афіцыйныя бланкі з мэтай пастуновага пераходу справаводства на родную мову ды іншыя. Асобным распараджэннем гэнеральнага дырэктара ад 30 студзеня 1992 г., № 11 забаранялася заводскай друкарні прымаць заказы ад падраздзяленняў завода на друкаванне інструкцый, абвестак, усялякіх бланкаў і г.д., не адпаведных патрабаванню Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы. Перыядычна рыхтавалася адпаведная інфармацыя аб ходзе выканання Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы для Дзяржкамітэта Рэспублікі Беларусь па прамысловасці і міжгаліновых вытворчасцях. Пра тое, што рабілася на МАЗе, гаворыць ліст сгаршыні ТБМ Ніла Гілевіча генеральнаму дырэктару Міхаілу Лаўрыновічу. Прывяду тэкст цалкам:

*"Паважаны Міхаіл Фёдаравіч! Даведаўся ад супрацоўнікаў Сакратарыяту Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны аб тым, што сёння, на рахунак ТБМ ад ВА "БелаўтаМАЗ" паступіў дабрачынны ўзнос у суме 250 тыс. рублёў. Гэта вельмі дарагі для нас дарунак і не толькі ў матэрыяльным вылічэнні, хаця і гэта для нас мае вялікае значэнне. Нам дорага, што Вы асабіста, кіраўніцтва вытворчага аб'яднання праявілі клопат пра арганізацыю, якая выконвае вельмі важную місію па выкананні Закона і Дзяржаўнай праграмы па адраджэнні Роднай мовы. Вялікі дзякуй Вам і ўсяму калектыву "БелаўтаМАЗ". Гэтая Ваша акцыя сведчыць аб высокай грамадзянскай пазіцыі і разуменні неабходнасці канкрэтнага ўдзелу ў справе адраджэння і развіцця нашай мовы, нашай нацыянальнай культуры. Мне тым больш прыемна выказаць Вам гэтую падзяку, паколькі я ведаю Вас як даўняга прыхільніка справы нашага нацыянальнага адраджэння, мне помніцца таксама Ваша выступленне на Мінскай гарадской канферэнцыі ТБМ у Палацы "БелаўтаМАЗа" ў снежні мінулага года, якое сведчыць аб вашым разуменні задач, якія выконвае Таварыства.*

*(Канцылярыя. Увах. № 1238, ад 07.07.1993 г.)"*

Спалучэнне адміністратыўнага рэсурсу ў асобах кіраўніцтва аўтазавода, райвыканкама і грамадскага руху - суполак ТБМ МАЗа, культурна-масавай камісіі прафкама завода, сяброў БНФ, партыі СДГ, раённай Рады ТБМ - прыносіла вялікі плён у пашырэнні нацыянальнай культуры - вяртанні роднай мовы.

Сябры Рады арганізоўвалі сустрэчы ў школах, на заводах з пісьменнікамі, паэтамі. У нас былі Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Арлоў... Ладзілі вечарыны ў Палацы культуры МАЗа, у Палацы пазашкольнага выхавання "Золак". Памятаю такую вечарыну, арганізаваную разам з кіраўніцтвам завода, гарадской Радай ТБМ і Менскім культурна-асветніцкім клубам "Спадчына". Паўнюткая зала, уздоўж сцен стаяць гледачы. Прысутнічаў Васіль Быкаў, якому нехта, узняўшыся, саступіў месца.

Рада ТБМ раёна накіроўвала на кожнае прадпрыемства лісгы з наступным змесгам:

*"Паважаныя таварышы! Рада Таварыства беларускай мовы Заводскага раёна звяртаецца да Вас з прапановай таварыскай дапамогі Вашаму прадпрыемству па ўкараненні беларускай мовы ў выкананні Закона аб мовах і патрабаванняў адпаведнай дзяржаўнай праграмы яе развіцця."* У лісце даваўся пералік таго, што мы маглі б зрабіць разам, але калі на прадпрыемстве будзе сгворана суполка. Ніводнага адказу мы не атрымалі.

Праводзілі пікеты. Дазволу тады не трэба было прасіць. Успамінаецца, як пікетавалі ля ўнівермага "Беларусь", бо памянялі шыльду назвы праспекта на рускую мову. Нам падалося, што гэта было зроблена, каб дагадзіць галоўнаму кіраўніку перад адкрыццём станцыі метро. Нас за гэта паўшчуваў раённы архітэктар (трэба адзначыць, справядліва паўшчуваў): маўляў, ну чаго вы адразу ў пікет, зайшлі б спачатку да мяне і вырашылі б станоўча. Успамінаецца і такі пікет у абарону мовы на рагу вуліцы Цэнтральная і праспекта Партызанскі. Ніхто не прыйшоў з сяброў Рады, а плакатаў наробдена шмат. Сталі мы, я і намеснік старшыні Пятро Русаў, пачапілі сабе на шыі па плакату, а астатнія ля дрэў паставілі. Стаім, вочы долу. Народ праходзіць, дзякуе. І бачым, як з натоўпу то адзін выйдзе, возьме плакат, то другі, і становяцца побач. Абсалютна ўсе незнаёмыя. А тут і паэт Сяргей Законнікаў паставіў свой жоўты скураны партфель, узяў плакат і стаў з намі.

Сябры Рады дапамагалі ў аўдыёафармленні на беларускай мове транспартных маршрутаў. Гэтым займаўся Барыс Родзіч. Мы з ім рыхтавалі водгукі на ўсялякую брыду і хлусню ў дзяржаўных газетах, улёткі. Напрыклад, для распаўсюду на мітынгу антыфронтаўцаў, ладжанага Сяргеем Гайдукевічам. Заканчвалася яна такімі словамі: *"Людцы добрыя! Будзьце пільнымі, не распальвайце варожасць! Лепш дапамажыце, падтрымайце асабістым прыкладам нацыянальнае адраджэнне сваіх братоў-беларусаў. Адраджэнне беларускай мовы не пагражае рускай ці іншым мовам..."*.

Мы наведвалі ўсе мітынгі, ладжаныя дэмакратычнымі сіламі, дапамагалі спайму дэпутату Вярхоўнага Савета, якім быў Яўген Цумараў. Тады ўсе паседжанні Вярхоўнага Савета транслявалі па радыё, і мы з Родзічам набылі кішэнныя радыёпрымальнікі, каб слухаць, як выступае наш дэпутат пры абмеркаванні праектаў законаў, або выказванне прапаноў у "Розным". Памятаю, перадаў Яўген мне як супрацоўніку прафкама праект Закона па ахове працы, каб выказалі свае прапановы. Я ў свaім прафкаме даручыў гэтую справу адказнаму за ахову працы на заводзе, які меў адукацыю Вышэйшай школы прафсаюзнага руху. Той пратрымаў да апошняга дня і вярнуў без аніякіх заўваг ці прапаноў. А ўрэшце іх набралася аж на два аркушы!

Трэба адзначыць, што адкрытага супраціву беларусізацыі сярод простых грамадзян не ўзнікала, бо на іх уласнае маўленне ніхто не пасягаў. І толькі з прыходам на пасаду галоўнага начальніка краіны з боку вярхоўнай улады пачаўся наступ на беларушчыну. Яго вяло і ніжэйшае кіраўніцтва, не хочучы разумець, што калі ты нейкі кіраўнік тут, на зямлі беларускай, то мусіш ведаць і карыстацца мовай яе народа. Хтосьці і цяпер ахвотна аперуе падкінутым такімі чынsocial... 

Шмат хто з сяброў былой раённай Рады ТБМ і аўтазаводскай суполкі вярнуліся, кажучы словамі нашага паэта, незабыўнага Алеся Пісьмянкова, у расейскамоўнае стойла. Пры сустрэчах са мною "очень любезно разговаривают по-русски". Іх ужо не хвалюе будучыня краіны. Не турбуе тое, што можа пры такіх умовах стацца: чыя мова, таго і зямля.

## Рошча нарэшце стала Гаем

Яшчэ ў 2010 годзе выйшаў апошні (шосты) выпуск нарматыўнага даведніка "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь", то на сёння сітуацыя з назвамі беларускіх населеных пунктаў больш-менш зразумелая. Прыйшла чарга і да нармалізацыі назваў, што фігуруюць у сістэме Беларускай чыгункі. Бо назвы чыгуначных станцый — частка сістэмы беларускай нацыянальнай тапанімії, але яны займаюць у ёй крыху асобнае месца. Чаму? Перш за ўсё таму, што гэтая тапанімічная падсістэма значна маладзейшая за сістэму назваў населеных пунктаў. На сённяшні дзень у ёй зафіксавана каля тысячы назваў чыгуначных станцый, раз'ездаў, каляёвых пастоў і прыпыначных пунктаў Беларускай чыгункі. У абсалютнай большасці назвы станцый і прыпыначных пунктаў супадаюць з назвамі геаграфічных аб'ектаў. Таму такія назвы станцый цалкам упісваюцца ў тапанімічную сістэму Беларусі: Антопаль, Баравуха, Барсукі, Батча, Белаазёрск, Бераставіца, Бабруйск, Віцебск, Ваўкавыск, Гуды, Жабінка, Жарабковічы, Жлобін, Калінкавічы, Калодзішчы, Лошыца, Новае Сяло і інш.

Аднак варта адзначыць, што на працягу доўгага часу існавала традыцыя прысвойваць назвы геаграфічным аб'ектам на рускай мове. У выніку стварылася цэлая група назваў станцый і чыгуначных прыпынкаў, якія ўжываліся толькі на рускай мове. Тапанімічная камісія Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, сутыкнулася з праблемай перадачы на беларускую мову шэрагу назваў, сярод якіх магу назваць такія, як *Берёзовая Роща, Восток, Железнодорожный, Западное, Звёздный, Красное Знамя, Крестьянка, Лебяжий, Ольша, Рассвет, Роща, Сахарный Завод, Строитель, Учитель, Юго-Запад.*

Прыпавесцю стала назва шматпакутнага прыпыначнага пункта “Гай” пад Менскам, які некалі яшчэ ў часы адной з савецкіх кампаній па русіфікацыі Беларусі перарабілі ў “Рошчу”. Гэтая “Роща” муляла вока і рэзала слых не аднаму пакаленню беларусаў. І нават, калі ўжо пераклалі на беларускую мову ўсе шыльды, Роща ўстаяла. Толькі замест рускага “Роща” пачалі пісаць і гаварыць: “Рошча”. ТБМ не адзін год вяло змаганне з гэтай “Рошчай”. Першым змянілася шыльда на пероне, але ў цягніку працягвалі аб’яўляць: “Рошча”. Нарэшце ў абвестках загучаў: “Гай”, але на светлавым табло працягвала віцца “Рошча”. І вось колькі тыдняў таму і тут з’явіўся “Гай”.

Вада камень точыць, датачыліся і “Рошчу”, але колькі іх яшчэ засталося па ўсёй Беларусі гэтых калькаваных, калекаватых назваў.

***Паводле СМІ.***

# “Мова дзяцей" у Гомелі

Два месяцы ў Гомелі працуе беларускамоўны гурток "Мова дзяцей". Заснавала яго гарадская суполка Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Ініцыятыву ў стварэнні гуртка "Мова дзяцей" выявіла новы старшыня гарадской суполкі ТБМ Алеся Аўласевіч - яна адначасова з'яўляецца і яго кіраўніком.





- Я ваджу сюды двух сваіх сыноў - Аляксея і Ўладзя, - расказвае маладая маці Тамара. - Аднаму шэсць гадоў, другому - тры з паловай. Будзем і трэцяга нашага сына навучаць беларускай мове, калі падрасце. Мы як толькі ўбачылі ў сеціве абвестку пра гурток, адразу вырашылі: будзем хадзіць! Муж найперш настойваў. Казаў, мы выгадуем без



роднай мовы каго заўгодна, але не беларусаў. Ён у мяне - мастак, беларускую мову шануе, размаўляе. І я з сынамі паўтараю, бо пасля школы не карысталася нашай мовай і пачала патроху забываць. Хочам, каб наша шматдзетная сям'я была беларускамоўнай. Вучым адначасова і ангельскую мову.

Дачцэ Наталлі Маргарыце - толькі пяць гадоў. Яна ходзіць ўгарадскі садок № 144, дзе беларускай мовай займаюцца толькі раз на тыдзень.

- Так дачка мову не вывучыць, бо няма адпаведнага моўнага асяродка. Хачу, каб Маргарыта валодала беларускай мовай. Бо якая ж перспектыва ў дачкі ў Беларусі без мовы? Сама я - медыцынская сястра, другі год наведваю курсы "Мова нанова". Нам у краіне трэба неяк выпраўляць перакос са станам роднай мовы. На паперы беларускай мова нібы нароўні з расейскай, а на яве - далёка адстала.

- Мы былі ўражаныя, - расказала Алеся Аўласевіч, - што на наш зварот пра навучанне дзяцей па-беларуску адразу адгукнуліся больш за тры дзясяткі бацькоў. Раней, наколькі я ведаю, у садках не стваралі беларускамоўных групаў, матывуючы тым, што няма ахвочых. Мы ад ТБМ накіравалі запыт у дзіцячыя садкі - як яны ставяцца да ідэі стварэння такіх групаў? Атрымалі шэраг адказаў: адны не могуць гэта зрабіць, бо няма кваліфікаваных беларускамоўных выхавацеляў. Іншыя пішуць, што малы працэнт бацькоў жадаюць навучаць дзяцей па-беларуску і не прасочваецца пераемнасьць у навучанні з найбліжэйшымі школамі, куды дзеці пойдуць вучыцца пасля садка. Трэція сцвярджалі, што ладзяць у садку дні беларускай мовы і выхаваўчыя мерапрыемствы - гэтага, маўляў, дастаткова. Чацвёртыя, апрача ўсяго іншага, наракалі на адсутнасць метадычных дапаможнікаў для беларускамоўнага навучання. Адзін адказ быў надзвычай кароткім: "Тэма актуальная. Зацікаўленне ёсць. Магчымасці няма". Таму мы і арганізавалі ў горадзе гурток "Мова дзяцей", каб даць магчымасць дзецям ды іх бацькам не чакаць з'яўлення групы, а пачаць ўжо зараз вывучаць беларускую мову, ставацца з такімі ж беларускамоўнымі дзеткамі, гуляць разам у гульні, маляваць, вучыцца і развівацца.

Сама Алеся Аўласевіч скончыла ў Менску лінгвістычны ўніверсітэт, валодае ангельскай і нямецкай мовамі. Падчас вучобы удзельнічала ў працы ТБМ. Выйшла замуж за гомельскага хлопца, прыхільніка беларушчыны.

- Ідэя навучаць дзяцей беларускай мове мяне апанавала, калі я яшчэ працавала ў школе, - тлумачыць Алеся. - У той час я вяла ад ТБМ гурток "Лемантар для дарослых". Але больш за ўсё хацелася навучаць менавіта дзяцей - праца з імі давала найбольш энергіі. У школе творчы падыход да ўрокаў не падтрымлівалі: "Не патрэбны тут песні-танцы". Сышла са школы, і цяпер стала вучыць дзяцей роднай мове ў гуртку. Хачу паказаць дзецям, што беларуская мова - гэта весела, цікава, пазітыўна.

У гуртку так яно і ёсць - гульні, забавы, танцы, песні. Назвы музычных інструментаў дзеці пазнаюць праз беларускамоўны мультфільм "Свінка Пэпа". Ніхто не сумуе, не нудзіцца.

Заняткі праходзяць кожную суботу на вуліцы Пушкіна, 2. Бацькі дзяцей самі аплачваюць арэнду памяшкання, самі прысутнічаюць на занятках.

Навучанне ў гуртку ладзіцца асобна для дзяцей узростам 3-4 гады, 5-6 і школьнікаў 8-12 гадоў. Малодшыя школьнікі, апроч мовы, атрымліваюць веды па гісторыі і культуры Беларусі.

*Радыё Свабода.*

# "Як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі" - цяпер па-беларуску!




Новая кніга па-беларуску для дзетак і іх бацькоў, працяг гісторый пра дзядулю Пэтсана і кацянятка Фіндуса пабачыла свет у серыі "Каляровы ровар" Саюза беларускіх пісьменнікаў у выдавецтве "Кнігазбор". Казка шведскага пісьменніка і мастака Свэна Нурдквіста, перакладзеная Надзеяй Кандрусевіч, ужо чакае сваіх чытачоў на паліцах менскіх кнігарняў.

Сімпатычныя і забаўныя героі Пэтсан і Фіндус, якія ажылі на старонках кніг шведскага аўтара, не маюць патрэбы ў прадстаўленні - яны вельмі папулярныя па ўсім свеце, у тым ліку і ў Беларусі, і казкі пра іх пераствораныя больш чым на 30 моў. На нашай роднай мове выйшлі кнігі "Пэтсан і Фіндус святкуюць Каляды", пасля - "Блінны торт" (абедзве пераклала Надзея Кандрусевіч).

А зараз серыя для дзяцей "Каляровы ровар" працягваецца гісторыяй "Як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі". З яе юныя чытачы і чытачкі даведаюцца, як пазнаёміліся і пасябравалі дзядуля Пэтсан і ягоны ўлюбёнец коцік Фіндус.

Канешне, не абыдзецца без авантураў і прыгод, падчас якіх Фіндус дазнаецца шмат новага пра нава-кольны свет, поўны цікавых раслінаў і жывёл, а таксама знойдзе новых прыяцеляў - фантазійных істотак мюклаў, нечым падобных на маленькіх добрых гномаў, якія ратуюць усіх, каму па-трэбная дапамога.

Выданне, як і ўсе астатнія кнігі Свэна Нурдквіста, шыкоўна ілюстраванае - адно задавальненне трымаць яе ў руках! Казка стане сапраўдным падарункам для ўсёй сям'і.

Пытайце кнігу "Як Фіндус згубіўся, калі быў маленькі" ў крамах Менска: "Кніжная Шафа" (пр. Дзяржынскага, 9), "Рагна" (вул. Сухая, д. 4 / вул. Караля, д. 22), "Цэнтральны кніжны" (пр. Незалежнасці, 19), "Акадэмкніга" (пр. Незалежнасці, 72), "Кнігі & кніжачкі" (пр-т Незалежнасці, 14), а таксама ў інтэрнэт-краме knihi.by.

*Прэс-служба ГА*
*"Саюз беларускіх пісьменнікаў".*

# *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, “Наша слова”!*

Шаноўныя сябры, ідзе падпіска на другое паўгоддзе 2016 года. У каталогу інфар-мацыя пра газету знаходзіцца на ст. 78. Цана змянілася нязначна. У 2016 годзе мы працягваем выходзіць на васьмі палосах. Газета мае добры рэдакцыйны партфель і плануе для друку тэксты самых розных матэрыялаў, з рознымі поглядамі і падыходамі, у тым ліку і адрознымі ад пазіцыі рэдакцыі. Мы будзем працягваць друк мовазнаўчых і гістарычных матэрыялаў у выкладанні тых аўтараў, якіх вы не знойдзеце на старонках іншых выданняў. Мы не стараемся навязваць чытачу сваю думку ці погляды, а падаём паведамленні і меркаванні саміх чытачоў. Чытайце, даведвайцеся, думайце. Будзьце з намі, і вы будзеце з усёй Беларуссю.

РП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету / часопіс 63865 (індэкс выдання)

НАША СЛОВА (назва выдання)

Колькасць камплектаў: 1

На 2016 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Каму (прозвішча, ініцыялы)

Куды (адрас)

(паштовы індэкс)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА

на газету / часопіс 63865 (індэкс выдання)

НАША СЛОВА (назва выдання)

Кошт: падпіскі 63600 руб.; пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў: 1

На 2016 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Каму (прозвішча, ініцыялы)

Куды (адрас)

(паштовы індэкс)

# Аб чым пяе азан у Наваградку

## Да 220-годдзя Наваградскай мячэці

**"Здаецца, заўсёды, так, як і сёння, драўляная…"**

*Першы спіс мячэцяў Рэчы Паспалітай (1795 г.) налічваў 23 храмы, з іх тры ў Наваградскім павеце (Лоўчыцы, Наваградак, Асмолава).*

*Сёння ў небе над Наваградкам гукі званоў двух цэркваў і двух касцельных арганаў пераклікаюцца з напеўным азанам.*

**У шматгалоссі наваградскіх храмаў**

Сярод беларускіх мясцін, звязаных з даўнім пражываннем татараў, старажытная Наваградчына вылучаецца і сёння тым, што тут знаходзяцца дзве мячэці - адна ў Наваградку і другая каля вёскі Католышы на Лоўчыцкім мізары. Абедзве не проста дзейныя храмы - гэта адрэстаўраваныя помнікі драўлянага дойлідства, сведкі шматвяковага мірнага суіснавання людзей.

На землях былога Вялікага Княства Літоўскага Лоўчыцкі прыход - адзін з самых старажытных, яго існаванне адлічваецца ад 1420 года. А гэта значыць - татарская мусульманская грамада тут узнікла без малога 600 гадоў таму! І адсюль вынікае - нароўні з тытульным этнасам татарская меншасць з'яўляецца на гэтых землях карэнным насельніцтвам, бо карэнным лічыцца народ, які пражывае на пэўнай тэрыторыі больш за 500 гадоў.

> **Тлумачальны слоўнічак**
>
> ***Азан*** - заклік да малітвы (набажэнства).
>
> ***Кааба*** - свяцілішча, якое Абрагам пабудаваў па загаду Бога больш за 4000 гадоў таму з камянёў на тым месцы, дзе, як лічаць многія, раней стаяла сховішча, пабудаванае Адамам.
>
> ***Мізар*** - мусульманскія могілкі.
>
> ***Мінарэт*** - вежа мячэці.
>
> ***Намаз*** - малітва; у мусульман намаз здзяйсняецца пяць разоў на дзень.
>
> ***Садага*** - рытуальны пачастунак ў памяць аб нябожчыку.

Што ж Наваградская мячэць? Сёлета спаўняецца 220 гадоў як на пэўнай адлегласці ад гарадскога цэнтра і бліжэй да падворкаў татарскіх жыхароў паўстала мячэць.

Як і многія храмы ў савецкія часы, мячэць не магла адкрываць свае дзверы вернікам. Яе ператварылі ў жылы дом, а на падворку ўзвялі гаспадарчыя пабудовы. Вяртанне будынка адбывалася ў перыяд агульнага для жыцця Беларусі Адраджэння. Мясцовыя ўлады вырашылі няпростае пытанне аб забеспячэнні людзей жыллём у адпаведнасці з законам. Гэты знак павагі татары прынялі з удзячнасцю і сваімі сіламі ўзяліся за афармленне тэхнічнай дакументацыі і наданне будынку неабходнага выгляду. Імёны тых, хто аддана працаваў і за кароткі тэрмін вяртаў храм да жыцця, павінны быць упісанымі ў гісторыю. І найперш імя духоўнага лідара і кіраўніка работ па рэканструкцыі татарскіх святыняў у Наваградку і на Лоўчыцкім мізары - ветэрана працы і ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Алі Амуратавіча Шагідзевіча.

Зноў у Наваградскай мячэці праводзяцца набажэнствы. 2017 год стане 20-ым з пачатку новага часу ў жыцці мячэці. Тут мы сустракаемся з тым, што вылучае мусульманскі храм: ужо каторы год па ініцыятыве цяперашняга імама Якуба Александровіча заклікае тутэйшых прыхаджан на намаз традыцыйнае "Аллаг Акбар!" - на пэўнай адлегласці ад мячэці пачынаюць яны ісці на гукі азана. Цяжка стрымліваць шчымлівыя пачуцці - як быццам чуюцца галасы далёкіх і нядаўна пакінуўшых гэты свет продкаў, у вялікай ступені на светлай памяці аб якіх трымаецца татарская супольнасць.

Тэхнічныя дасягненні не маглі не зрабіць свой унёсак: заклік да малітвы гучыць не з вуснаў муэдзіна, а праз апаратуру ў запісе - гук рэгулюецца, каб не трывожыць месцічаў. Прынамсі, ніхто з іх не выказаў абурэння - вельмі напеўныя гукі хутчэй супакойваюць і, міжволі, ствараюць атмасферу шматгалосся, адпавядаючы, калі ўжываць навуковыя тэрміны, "прынцыпу мульцыкультуралізму", на падставе якога стагоддзі жывуць людзі гэтага заходнебеларускага рэгіёна.




***Эдуард Рымаровіч. Грунвальдскай бітве прысвячаецца** (фрагмент карціны). 110х130. Палатно, алей. 2010 год.*

**Татарскія пасяленні на Наваградчыне**

Найбольш бліскучай старонкай у гісторыі пасялення і жыцця татараў з'яўляецца эпоха княжання аднаго з найслаўнейшых правіцеляў Еўропы - Вітаўта. Татары вылучалі Вітаўта, называлі яго Белым Ханам і Ватадам[1]. Па запрашэнні вялікага князя прыбыў татараў у ВКЛ хан Тахтамыш, якога Вітаўт імкнуўся выкарыстаць у барацьбе з крыжакамі і з Масковіяй. Выконваючы ролю абаронцаў Вялікага Княства Літоўскага, татары аселі вакол замкаў у Вільні, Троках, Медніках, Лідзе, Наваградку, Крэве - такім чынам татарскія пасяленні ўтварылі ўздоўж заходніх межаў дзяржавы абарончае паўкола. Напрыканцы праўлення Вітаўта (княжыў 1386 - 1430 гг.) у ВКЛ было - без уліку іх сямейнікаў - да 40 тыс. воінаў-татараў.

У аддзяку за вайсковую службу вялікія князі надзялялі татараў надзеламі зямлі і зацвярджалі іх прывілеі.

У Літоўскай Метрыцы знаходзіцца прывілей караля Аляксандра, выдадзены 7 красавіка 1505 г. маршалку татарскаму Келдыяру Курчэнічу на дзве службы людзей у Навагародскім павеце. Паводле граматы Жыгімонта І ад 15 траўня 1540 г., абавязкам маршалка князя Махмета Улана Асанчуковіча было: "В стягу, ся рядити и справовати"[2].

Па смерці кожнага вялікага князя мусульмане маліліся за яго душу. У найвялікшай пашане праз стагоддзі заставаўся Вітаўт Вялікі. У мемарыяле 1519 г., што быў пададзены Жыгімонту І, гаворыцца: *"Няма ж слаўнае памяці Вітаўта, ён нам не казаў забыцця прарока, а мы, да святых месцаў вочы нашыя зварочваючы, так імя ягонае ўспаміналі, як нашых халіфаў. Нашыя дзеці ведаюць аб ім. Мусульмане, якія жывуць у гэтым гаспадарстве, такога дня збіраюцца ў мячэцях і ўспамінаюць ягонае імя з захапленнем".*

У XV - XVII стст. найболей татараў жыло у паветах: Троцкім - 1243, Наваградскім - 942, Менскім - 818, Ашмянскім - 788. У 1631 г. ў Наваградскім і Мсціслаўскім паветах пасялілася вялікая колькасць прадстаўнікоў племя барын - 82 дымы (двары). У племя барын уваходзілі нашчадкі вышэйшых арыстакратычных родаў Крымскага ханства. Таксама ў Наваградскім павеце жылі нашчадкі залатаардынскай знаці з уланаў[3] і прадстаўнікі племя джалаір.

Колькасць татарскага насельніцтва Наваградка з часу першых пасяленняў вагалася і ў канцы XVIII ст. складала 500 чалавек. Больш пражывала толькі ў Менску і Слоніме - 1300 і 700 чалавек адпаведна; пасля Наваградка заставаліся Вільня, Гародня, Відзы, Ашмяны, Докшыцы, Ляхавічы, Клецк, Іўе і інш.

На пачатку XIX ст. дадзеныя аб колькасці жыхароў Наваградка сведчаць пра змяншэнне татарскага насельніцтва. Так, у 1817 г. сярод 1571 жыхара горада вылучался ўсяго 319 татараў. Ці гэта ад няпоўнага ахопу пры перапісе, ці водгукі (не абавязкова смерці) вайны 1812 года?

Паводле справаздачы наваградскага паліцмайстра, у 1848 г. у Наваградку жыло дваран 452, з іх татараў - 380. У горадзе былі тады 3 царквы, 3 касцёлы, мячэць, сінагога і 5 яўрэйскіх малітоўных дамоў[4]. Па звестках чыноўніка па асобых даручэннях у Наваградку ў 1844-1852 гг. у Дамініканскім заштатным кляштары былі ахрышчаны 6 татарак-мусульманак. Сярод іх былі Ханіфа Кусцінская, Фацьма Аляксандровіч, Ханіфа Матаранка, Фацьма Палтаржыцкая і Галька Лебедзева. Яны прынялі гэтую веру дабраахвотна і з дазволу міністра ўнутраных спраў, аб чым прадставіў дакументы наваградскі дэкан Эйсмант[5].

Перапіс 1861 г. зафіксаваў, што колькасць татараў-магаметанаў вярнулася да лічбы канца XVIII ст.: 246 мужчын і 223 жанчыны[6].

У 1888 г. насельніцтва горада павялічылася да 12000 жыхароў. Паводле веравызнання вылучаліся: праваслаўныя-беларусы - 470, каталікі - 2200, магаметане - 1160. Знакаміты найбольш поўным ахопам перапіс насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. паказаў, што ў Наваградку было 7887 жыхароў. Паводле веравызнання праваслаўных і аднаверцаў жыло 1573, рымакатолікаў 790, іудзеяў 5015, магаметанаў 494, пратэстантаў 14, старавераў 1[7].

Пачатак XX ст. ў статыстыцы адзначаны 1910 г. Матэрыялы кнігі "Памяць"[8] у графе "Насельніцтва паводле веравызнання" сведчаць: магаметанаў - 545 чал., што складала 6,5 % ад агульнай колькасці жыхароў. У графе "Насельніцтва па нацыянальнасці" значыліся тыя ж лічбы адносна татараў - гэта красамоўнае сведчанне аб татарах-мусульманах як карэнных жыхарах Наваградка і аб іх самасвядомасці.

У 1921 г. ў Наваградку жыло 335 мусульманаў (5,7% ад агульнай колькасці жыхароў горада), у 1938 г. - 766 татараў. Пасля вайны фіксуецца зніжэнне татарскага насельніцтва ў месцах іх ранейшага кампактнага пражывання. Магчыма, узніклі абставіны - у тым ліку змешаныя шлюбы - калі дзеці запісваліся як беларусы ці палякі. Цяпер тых, хто ідэнтыфікуе сябе татарамі налічваецца крыху больш за 300 чалавек.

*(Працяг у наст нумары.)*




***1931 год. Фота М. Шымяновіча.***

[1] У перакладзе з арабскай мовы *Ватад* - "шатровы кол", "слуп". Гл.: Баранов, Х.К. Арабско-русский словарь, издание 7-е, стереотипное. - М.: "Русский язык", 1989.

[2] Мухлинский, А. Исследование о происхождении и состоянии литовских татар. Минск: Беларускае кааператыўнае таварыства "Адраджэнне", 1993. (Репринт. воспроизв. СПб.: Тип. Эдуарда Веймара, 1857).

[3] Частка уланаў пазней прыняла прозвішча Карыцкія ад маёнтка Карыца ў Наваградскім павеце.

[4] Памяць: Гістор.-дакум. хроніка Навагруд. р-на. - Мінск: Беларусь. - 559 с.: іл. С. 177.

[5] НАРБ, ф. 295, воп. 1, спр. 1224, арк. 1, 4, 5, 8.

[6] Найбольш жыло іудзеяў: 1617 (муж.), 1615 (жан.); найменей пратэстантаў: 9 (муж.), 4 (жан.).

[7] Размеркаванне насельніцтва паводле роднай мовы выглядала наступным чынам: беларуская - 1676; вялікаруская - 319; маларуская - 16; яўрэйская - 4992, польская - 401, нямецкая - 5, татарская - 475, астатнія - 3 чалавекі. Размеркаванне насельніцтва паводле саслоўяў: дваране патомныя і асабістыя - 883, духавенства - 28, купцы - 87, мяшчане - 5519, сяляне - 1324, замежныя падданыя - 11, астатнія - 35.

[8] Памяць: Гістор.-дакум. хроніка Навагруд. р-на. - Мінск: Беларусь. - 559 с.: іл.





Яўген Гучок

# Законы неба не адмяняюцца

## (Нябесная Беларусь)

**паэма-эсэ**

(Працяг. Пач. у папяр. нумарах.)

* * *
Не лепшай была
і мінулая магнатэрыя:
Сама расслаблялася і ў падначаленых
Любоў да Айчыны не ўмацоўвала.

* * *
Не толькі хлеб, а і неба
Даўно адбіраюць і кідаюць у балота
І Чарнобылем пасыпаюць.

* * *
І на левы бок, і на правы бок
Злыдні-злоснікі
Беларусь выварочвалі,
Але часткай лепшаю
ў нябёсы яна ўздымалася.

* * *
І ручнікі, і кошыкі, і пасцілкі -
Таксама гэта напамінак аб Айчыне,
Ды вось, ці дастаткова гэтага?!.

* * *
Ёсць машыны у іх, TV, кампутары,
А Творца, Неба, Айчына…
А навошта яны?!.

* * *
У многіх сем'ях галава, -
На жаль вялікі,
Тэлевізар.

* * *
Ды і вучэльні, і школа,
Каледж і ВНУ -
На ўзроўні тэлевізара і інтэрнэта.

* * *
"Няўжо? Не можа быць?
Адкуль ты ведаеш?" -
Цямніла-споршчык
У пярэчанні такія
аргументы ўжывае.

* * *
Даеш інфармацыю-факт,
А яны, няўдзячныя,
цёмныя, вінавацяць мяне,
Маўляў, сваю думку навязваю.

* * *
Пытання твайго не даслухаўшы,
Яны ўжо даюць адказы,
Прыпраўленыя дробязнаю лухтой.

* * *
А цёмныя сілы не столькі звонку,
Колькі ўнутры чалавекаў
І ўжо распіраюць іх.

* * *
А цёмным сілам на змену
Часта брыдзе пустата
З нябачнаю здольнасцю -
дараспіраць.

* * *
Не, яны не ўзіраюцца ў неба,
Наадварот, глядзяць з-пад ілба -
Цікуюць, каб штосьці
яшчэ з Айчыны сцягнуць.

* * *
У іх амаль ва ўсіх
Адзіны светапогляд, -
Бы матылька, адзін аднога накалоць.

* * *
Адны Айчыну сваю
Прадаюць паакордна,
А іншыя - пакрысе, патрошку.

* * *
Які наіў, якая прастата
Свой сорам
Празрыстым цэлафанам
прыкрываць.

* * *
Толькі пра сябе
І толькі пад сябе…
Хіба з такіх выходзяць патрыёты?!.

* * *
Безліч тутэйшых
разумнікаў-здраднікаў
Абслугоўвалі Захад і Усход.
Дзякаваць Богу,
ратавалі Айчыну нябёсы.

* * *
І з Усходу, і з Захаду, і нечысць свая
Сувязь з небам Айчыны
Парваць імкнулася.

* * *
Усебеларускасць іх добра вядома,
Нібы ўсесаюзнасць яна,
Якая даўно паспяхова ляснула.

* * *
Была часовай пятая графа ў СССР;
Саюза ўжо няма, а вось
Над беларусамі і сёння
розныя параграфы лунаюць.

* * *
Ні ў душах, ні ў хатах
У большасці
З Духам светлым няма кантактаў.

* * *
Што б ні сказаў ты ім
Яны на ўсё пярэчаць:
Быць хоча дурань
разумнейшым за цябе.

* * *
Няма ў начальстве беларусаў
у Беларусі,
А калі хтосьці ёсць,
То ці прыгоннік ён, ці паслугач.

* * *
Незаконна-нязменная ўлада -
Вось крыніца
бязмежных злачынстваў
І хамства недатыкальных.

* * *
І вучыцца, і лячыцца -
"Бог не роўна дзеле"…
Але і гэта сцерпяць беларусы.

* * *
Памеры пенсій і зарплатаў -
Ёсць і таму паказчык, -
Хто гуляе, хто працуе,
а хто і назірае.

* * *
Але што паказальна:
Гэта зараза
Паўзе і ўніз - ушыркі і ўздоўжкі

* * *
Так, наш даляглд беларускі
Вякамі нявечылі даляглды
Захаду і Усходу.

* * *
Усходу і Захаду агулы,
А з імі і беларускі агул - адзіны
У адмоўным стаўленні
да беларушчыны.

* * *
А боль душы беларускай
Выклікае амаль паўсюдна
Пагарду і абразлівы смех.

* * *
О Радзіма!
І зверху, і знізу,
і з усіх чатырох бакоў
Ажыўляй дзяцей сваіх блудных.

* * *
І што тут толькі не будуюць!
Спачатку камунізм,
пасля - саюзную дзяржаву,
А вынік лёгка прадказаць.

* * *
І ўсё ж галоўная будоўля -
У Драздах…
Там тыя, хто не здольны
думаць аб народзе.

* * *
Ну што сказаць пра тых,
Хто фашыстоўскія парадкі ўхваляе
І бэсціць мову беларускую?!.

* * *
"Сакрат! Сакрат!
Не ідзі на плошчу!" -
Нясецца з Беларусі
Голас антыбеларускі.

* * *
Цярпела ад адных татараў Беларусь,
Другімі ж узмацнялася
І ў адраджэнцах мела іх.

* * *
А Творца не слухае ўхвалы сабе,
А ўзіраецца са шкадаваннем
У пакуты і бездарож Беларусі.

* * *
Колы круцяцца,
Ды не едуць…
Беларусь на зямлі буксуе.

* * *
Даволі нам пра беларускага
Паходжання чужынцаў знакамітых!
Яны не лепшы прыклад
для Радзімы.

* * *
Купляйце беларускае…
Яно не беларускае…
І немач вам гарантавана.

* * *
Сённяшняй Беларусі
Беларусу - замала…
Дзе яе мова, дзе яе неба,
Дзе памяць аб годных продках.

* * *
О небеларуская ўлада на Беларусі!
О колькі заўчасна лягло беларусаў
З-за яе ў труну!

* * *
Пакуль што да дэльты неба
Рэкі твае не зусім даплываюць,
Шматпакутная Беларусь.

* * *
"Няма у нас мужчын", -
Чаўпе яна;
Адказваю:
"Няма каму іх нарадзіць".

* * *
І сам сабе дадумваю:
"А ад каго жанчына можа нарадзіць
Мужчыну мужнага,
героя-патрыёта?!"

* * *
"Няма ў нас мужчын сапраўдных", -
Яна ўдакладняе;
Адказваю: "Узялі жанчын
сапраўдных след яны".

* * *
"Няма ў нас мужчын", -
Амаль што канькае яна;
А бацька хто?!. А брат?!.

* * *
Разбеларушваў беларусаў бацька,
Яна ж не бацькам, а несвядомымі
Сягоння абураецца.

* * *
"Няма ў нас мужчын!"
Ды ты сама мужык-мужчына
З адпітымі мазгамі, праўда.

* * *
"Няхай! Затое мужыкі такія
Помнікі адстойваюць Дзяржынскім
А хутка і Сталіну паставяць".

* * *
А ў Стоўбцах - Стаўбунах
Стаўбуняне - стаўбнякі
Коласу не ставяць помніка, але…

* * *
А здараецца: падаюць слёзы,
Слёзы нябесныя - і спачування,
і шкадавання -
На ўкрыжаваную Беларусь.

* * *
Ці ж здраджваюць
нябеснай Беларусі
На зямлі?!. О яшчэ як!
І ідуць за гэта ў нябыт.

* * *
Ах Віктар Вальтэр! -
Нязменны дыягностык наш,
Няўжо наш эпікрыз нязменны?!.

* * *
"Непаметнасць і рабства…", -
Праклён Сатурна;
Ды пакінуць яны Беларусь!!!

* * *
Мы яшчэ не стварылі сваё
"Развітанне з Радзімай",
Дык ці створым "Сустрэчу з ёй"?!.

* * *
А ці была для нас поўнай
наша Айчына?!.
Як маглі, адбіралі яе ў нас
І свае, і чужыя.

* * *
Захліснуў тэрарызм планету,
А ў нас ён лютуе стагоддзямі;
Але выжыве яна - Беларушчына!

* * *
Не ўключылі ў аб'ект нападу
Тэрарысты нашу краіну…
Мо, складовай часткай Расіі
бачаць яны яе.

* * *
Ты думаеш Захад лепшы!..
Ды ён за важкую суму
Басанож будзе танчыць
на перавернутай баране.

* * *
Хутка, хутка ўшчэнт забудзе
Пані Еўропа, што калісь
Магдэбургкай была яна.

* * *
Зямля, зямная Беларусь -
Не штосьці іншае яна, здаецца,
А жорсткае выпрабаванне.

* * *
Калі вада дарогу ў неба ведае,
Дык а чаму туды шляхоў не ведаць
Шматпакутнай нашай Беларусі?!.

* * *
Як тут, няма там святаў
На абпіванне, на абжыранне
І на амаль што скоталожства.

* * *
Як будзеш цвёрда стаяць
за Айчыну зямную,
Дык мецьмеш магчымасць
Увайсці у яе - Нябесную.

* * *
Праўда, шчырасць
і непрыкідванне -
Вось у чым шляхі прамыя
Да зямной Айчыны і нябеснай.

* * *
Хто жадае - пачуе,
Купалава чулае сэрца пачуе:
"Жыве Беларусь!"

### III. Бойся каўтуна ў галаве

"Хай беларусы удосталь
хлеба паядуць,
дык яны і забудуцца,
што яны беларусы".
*(Змітрок Бядуля.)*

* * *
Тутэйшыя, тубыльцы, тутакі…
Забаўна назіраць за гэтым людам,
Ды вось бяда -
у гэтым асяродку трэба жыць.

* * *
Яны ведаюць усё
Адно толькі ім невядома,
Як пастаяць -
пазмагацца за Бацькаўшчыну.

* * *
Адзін аднаго не слухае,
Перабівае адзін аднаго…
Няма ў іх сэрцах Айчыны.

* * *
Уга! Ого!
Яны адзін аднаго разумнейшы,
А разам у дурнях сядзяць.

* * *
У спрэчках яны -
Адзін аднаго разумнейшы,
А паразумеюцца -
кожны дурань у квадраце.

* * *
Ён не ідзе, а яго вядуць,
Ён не едзе, а яго вязуць,
Яны прыдумляюць,
а ён губашлёпіць.

* * *
Напіліся…наеліся…
Лыпаюць вочкамі
І не ведаюць, хто яны.

* * *
Што будзе на абед і на вячэру
Прадумвае ў сняданак
Гэты "патрыёт".

* * *
А колькі тут такіх,
Што могуць многа выпіць
І выпіць абы з кім.

* * *
А ў нізах адно імкненне -
Звыш меры на халяву
Дзербалызнуць.

* * *
Ого! Якая ў іх сіла волі:
Не хочацца курыць,
а кураць аж да ачмурэння,
І піць не хочацца,
а п'юць да пакатынку.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Вернік надзеяй дужы



Які ён, маладзевы лідар, герой сёняшняга часу? Любіць Беларусь, верыць у Бога, шануе сям'ю, вучыць дзяцей беларускай мове і гісторыі, асновам веры. Асоба з пачуццём унутранай свабоды, з дабразычлівасцю да людзей. Пра галоўныя каштоўнасці ў жыцці мы пагутарылі з Іллём Дабратворам, пераможцам сёлетніх курсаў Дыджэяў Адраджэння.

Ілля нарадзіўся ў Менску ў 1981 годзе ў сям'і журналістаў. Яго бацька Мікалай Дабратвор працаваў на Беларускім тэлебачанні, а маці - у рэдакцыі спартовых праграм. Бацькі мелі ўкраінскія карані. Прозвішча "Дабратвор" пайшло ад прадзеда, прафесара гісторыі. Некаторы час у 80-тыя гады сям'я жыла на Поўначы. Бацька Мікалай у часы перабудовы выдаваў дэмакратычную газету разам з сябрам-каапературам.

У 11 гадоў, страціўшы бацьку, Ілля хрысціўся, з таго часу стаў вернікам Праваслаўнай царквы. Хлопец вучыўся ў некалькіх менскіх школах, паступіў у Міжнародны гуманітарна-эканамічны ўніверсітэт (МГЭУ) Аляксандра Алпеева, дзе авалодаў спецыяльнасцю псіхолага і выкладчыка псіхалогіі. Да кола беларускамоўных сяброў яго далучыў сын гісторыка і палітыка Валянціна Голубева - Зміцер.

Некаторы час Ілля працаваў у школе сацыяльным педагогам. У 2006 годзе ён быў прымушаны сысці за падтрымку А. Казуліна. Сёння Ілля Дабратвор з'яўляецца сябрам Таварыства беларускай мовы і партыі БНФ, працуе ў прафсаюзе работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП).

У Іллі і яго жонкі Іны пяцёра дзяцей : Сафія, Яўсей, Герман, Марк і Агата. Тата і мама па чарзе возяць іх у 190-тую менскую школу ва Уруччы, дзе ёсць беларускамоўныя класы. Былая завуч Марыя Збыхаўна фарміравала і адстойвала гэтыя класы.

- Лічу, што беларуская мова павінна закладацца з дзяцінства, таму што потым вельмі цяжка пераходзіць на яе. З улікам таго, што некаторыя настаўнікі лічаць яе другаснай, ставяць " аўтаматам " адзнакі, варта прыкладаць высілкі, каб дзеці вучылі родную мову з першага класа. Вучу дзяцей думаць, аналізаваць, рабіць свае высновы. Хочацца выгадаваць іх годнымі людзьмі. Паколькі яны растуць у шматдзетнай сям'і, то бароняць і падтрымліваюць адзін аднаго. Мы ходзім у царкву, дзеці наведваюць нядзельную школу.

***- У чым была асаблівасць сёлетніх курсаў Ды-джэяў? Як Вы знаходзілі для іх час?***

- Мне вельмі блізкая ідэя курсаў, сфармуляваная ў словах: "Беларуская форма, хрысціянскі змест."

Удзельнічаць у іх было цікава, трэба было пісаць артыкулы, рабіць акцыі, ішло спаборніцтва паміж камандамі. За гэты час я правёў два шоў Беларушчыны ў менскай школе і дзве такія віктарыны ў межах прафсаюза. У якасці прыза атрымаў вышыванку. Прыцягальным было заданне ў намінацыі: "Высадка з парашутам"- знайсці ў рэгіёне важны гістарычна-культурны аб'ект і падкрэсліць яго значэнне.

Мы ездзілі ў Смаргонскі раён, у вёску Арляняты. Глухая вёска - 6 - 7 дамоў, дарог амаль няма. Пра ксендза Адама Станкевіча (1891-1949), заснавальніка БХД, рэдактара газеты "Крыніца", які адным з першых выкарыстоўваў беларускую мову ў казаннях, вельмі мала напісана ў Вікіпедыі. Вядома, што ён нарадзіўся ў Арлянятах Смаргонскага раёна Гарадзенскай вобласці.

Мы паехалі туды і знайшлі магілу яго бацькі - Вінцэнта Станкевіча, добраўпарадкавалі яе, павесілі побач бел-чырвона-белыя сцягі. Разам з двума надмагіллямі там знаходзіцца памятны камень ксендзу Адаму Станкевічу. Сам ён быў закатаваны ў 1949 годзе, загінуў у Іркуцкай вобласці ў Сібіры. Мясцовыя жыхары ўсталявалі памятны камень на яго радзіме. Лічу, што хрысціянскі погляд на свет - аснова беларускага светапогляду.

***Э. Дзвінская.***

**На здымку аўтара**: Ілля Дабратвор.

# КРАЯЗНАЎЧЫЯ ПАДАРОЖЖЫ ПА СЛОНІМШЧЫНЕ

Прыемна прызнаць, што краязнаўчая бібліятэка Гарадзеншчыны папоўнілася працай сябра Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Аляксандра Місцюкевіча, выдаўшага кнігу "Падарожжы па родных мясцінах" (выйшла ў Гродне ў ТАА "ЮрСаПрынт").

Шлях аўтара, інжынера - энергетыка, да краязнаўства, да гісторыі быў невыпадковы, працяглы і пачынаўся з чгасоў перабудовы. У сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя ў нацыянальна арыентаванай часткі беларусаў адраджаецца цікавасць да нацыянальнай культуры, мовы, гісторыі. Узнікшая цяга да роднай гісторыі прыводзіла сп. Місцюкевіча на вечары сустрэчы з гісторыкамі М. Ткачовым, А. Краўцэвічам, А. Смалянчуком, З. Шыбекам, на абмеркаванне кніг па гісторыі Беларусі М. Ермаловіча, У. Ігнатоўскага, Г. Сагановіча, на паседжанні клуба "Паходня". На сустрэчах захапляла атмасфера навізны, тут панавала родная мова, якая асвяжала душу, натхняла на адраджэнцкую працу. Калі пачалі стварацца першасныя суполкі Таварыства беларускай мовы, ён, Аляксандр Місцюкевіч, працуючы ў Гроднаэнерга, стварыў такую суполку ў сваёй арганізацыі і запрашаў для выступленняў перад супрацоўнікамі навукоўцаў горада па хвалюючых пытаннях культуры і гісторыі Беларусі. Грамадская актыўнасць садзейнічала таму, што ён з 1999 г. дзевяць гадоў узначальваў Гарадзенскую абласную арганізацыю Таварыства, клапаціўся аб адраджэнні і распаўсюджанні беларускай мовы ва ўстановах адукацыі, культуры, дзяржаўных і грамадскіх арганізацыях, на прадпрыемствах Гарадзеншчыны.




Атмасфера нацыянальнага адраджэння, запанаваўшая ў краіне, у горадзе, грамадская работа сфарміравалі ў сп. Місцюкевіча жаданне звярнуцца да паглыбленага пазнання мінулага родных мясцін Слонімшчыны. На працягу жыцця многае пабачыў і пачуў ад родных і землякоў, многа даведаўся з новай гістарычнай літаратуры. Давялося шмат і сур'ёзна папрацаваць у гарадзенскіх архівах і бібліятэках, перапісвацца з вучонымі з Менска, шукаць у інтэрнэце, каб вынесці на суд чытача свае нататкі аб здаўна вядомых яму мясцінах краю. Я меў магчымасць назіраць, як адказна адносіўся аўтар кнігі да апісваных падзей, фактаў, імёнаў, як дакладна правяраў кожную цытату або слова. У выніку атрымалася змястоўная, цікавая, напоўненая канкрэтыкай гісторыя невялікага рэгіёна Слонімшчыны - вёсак Піронім, Львоўшчына, Ісаевічы, Дзераўная.

Кніга складаецца з васьмі розных па аб'ёме артыкулаў, а траціну яе займае аповед аб роднай вёсцы Піронім, іншыя артыкулы - "Львоўшчына", "Бронскія", "Гісторыя Дзераўноўскай царквы", "Гісторыя забытых гасцінцаў", "Успаміны" і інш. Некаторыя з іх друкаваліся ў "Газеце Слонімскай" і былі прыязна сустрэты чытачамі. У артыкуле аб Піроніме зацікаўлены чытач знойдзе звесткі аб вёсцы, яе ваколіцах і жыхарах амаль за 400 гадоў: тут і меркаванні аўтара аб паходжанні назвы, інфармацыя аб уладальніках і жыхарах яе, іх гаспадарчым становішчы, руйнаванні ўстанавіўшагася ладу жыцця рознымі войнамі і сацыяльнымі выбухамі. Вёска належала даволі заможным панам Бронскім, якія акрамя традыцыйнай сельскай вытворчасці стварылі ў 1830 г. рэдкую ў Беларусі першай паловы 19 ст. суконную фабрыку, што праіснавала 32 гады і не вытрымала канкурэнцыі з фабрыкай Пуслоўскіх. Аўтар прыводзіць цікавую інфармацыю аб правядзенні зямельнай рэформы 1861 г., надзяленні сялян зямлёй, падае спіс 89-ці гаспадароў на 1893 г. і іх матэрыяльнага становішча, што можа зацікавіць іх цяперашніх нашчадкаў. Маюцца канкрэтныя і цікавыя факты аб падзеях Першай і Другой сусветных войн у ваколіцах вёскі, аб земляках - удзельніках Вялікай Айчыннай вайны і загінуўшых у ёй, аб стварэнні і дзейнасці калгаса. Аўтар з горыччу апісвае паступовы заняпад вёскі ў наш час. У артыкуле выклікаюць цікавасць этнаграфічныя апісанні аўтара сялянскага жытла, прылад працы, спосабаў апрацоўкі зямлі, заняткаў жыхароў у розныя эпохі.

У кнізе аўтар даследуе ўдзел землякоў у нацыянальна-вызвольных паўстаннях 1830-1831 і 1863-1864 гадоў, уладальніка маёнтка Ісаевічы-Піронім, канкрэтна расказвае аб рэпрэсіўнай палітыцы царскіх улад на Слонімшчыне. Выклікаюць цікавасць факты дабразычлівых адносін уладальнікаў вялікага маёнтка Ісаевічы - Дзераўная Бронскіх да сялян у 19 - 20 стагоддзях, якія парушаюць набіўшыя аскоміну савецкія ўяўленні аб памешчыках-эксплуататарах. Мінуўшчына выступае ў кнізе ў выглядзе апісання забытых, закінутых гасцінцаў, старажытных курганоў, гісторыі Дзераўноўскай царквы, панскай сядзібы, дома або сада. І аўтар паказвае сябе не пабочным назіральнікам артэфактаў мінулага, не абыякавым экскурсаводам па мінулым, а чалавекам, які заклапочаны іх захаваннем і імкнецца гэтага дамагчыся.

Сучаснасць паўстае з успамінаў аб сваім радаводзе, асабістым жыццёва-працоўным шляху, з гутарак з землякамі і іх расповедаў. Прыведзеныя ў кнізе жывыя факты з мінулага і сучаснасці могуць зацікавіць краязнаўцаў і землякоў у іх занятках, настаўнікаў і вучняў у краязнаўчых пошуках. Спадар Місцюкевіч зрабіў вельмі карысную справу, увекавечыўшы гісторыю маленькага куточка нашай краіны - гісторыю некалькіх вёсак Слонімшчыны і іх жыхароў, паказаў, як па іх жыццях пракочваліся і пакідалі на іх сляды вялікія гістарычныя падзеі.

Кніга багата праілюстравана каляровымі фотаздымкамі ўпамянёных мясцін, зробленымі самім аўтарам. Напісана даступнай мовай, без непатрэбнага маралізатарства.

Вядома, што ў шуфлядзе ў А. Місцюкевіча маецца яшчэ цікавая інфармацыя з мінулага роднага краю, і пажадаем яму поспехаў у іх афармленні.

***Іван Буднік,*** *краязнавец.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.

***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.

***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by



**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/
http://nashaslova.mns.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 13.06.2016 г. у 17.00. Замова № 1382.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 9800 руб., 3 мес.- 29400 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.